# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №34 (155) 13 СЬНЕЖНЯ 1999 г.


## Сьмерць у дровах

Як нападала сьнегу, у столінскіх лясах зноў сталі павальна вырубаць лес, у тым ліку забруджаны радыяцыяй. Лесьнікі кажуць, што толькі ў вёскі Рубель да Хатомель штодзень зь лесу прыходзіць па 25—30 фурманак і развалаў, піша БелаПАН. Аднаго жыхара Хатомля за апошнія 3 гады злавілі з дрывамі 12 разоў, а яму хоць бы дзічкі: кара большменш як мінімалка, дык усё адно аплоціцца езьдзіць. Газу на Століншчыну амаль няма, вуглю бракуе, дык топяць хаты й цяпліцы дрывамі. Горш, шчэ й прадаюць іх. Хто ня ведае, купляе і топіць сабе сьмерцю.

### Дактары-бэзнэфаўцы адсудзілі прэмію

Суд абавязаў выплаціць ляхавіцкім дактарам Алене і Ігару Лобанам незаконна зьнятыя зь іх прэміі. Іх уціскалі за тое, што Ігар быў ачольваў у раёне БНФ — 12 разоў пакідалі бяз прэміяў (ён тэрапэўт, яна стаматоляг). У судзе Лобанам дапамагала праваабарончая "Вясна-96", піша БелаПАН. Лобаны акрыялі ад перамогі і хочуць цяпер заснаваць у Ляхавічах суполку Свабоднага прафсаюзу.

### Заміж пэрсідзкага ўзору...

9 сьнежня ў Доме літаратара сьвяткавалі 108-я ўгодкі Максіма Багдановіча. Пры канцы вечарыны не абышлося без палітыкі. Правялі імправізаванае галасаваньне "за" і "супраць" саюзу з Расеяй. Чалавек 10 было "за" і чалавек 150 — "супраць". Дык прынялі зварот-ліст пратэсту супраць дамовы, а пасьля, стоячы, усёй заляю выканалі "Пагоню".

А.Ш.

### Экспансія краёўцаў

У Берасьці моцна актывізаваліся тутэйшыя "краёўцы". На аўтобусных прыпынках зьявіліся іхныя ўлёткі: "Табе абрыдла гэтае сьвінячае жыцьцё? Ты ня лічыш сябе быдлам і "атрэб'ем" — прыходзь у "Край", і мы навучым цябе, як бараніць Годнасьць! "Край" гуртуе вакол сябе людзей, для якіх словы: бог, воля, нацыя, дзяржава — не пусты гук".

Зь Берасьця — Сяржук Пруднікаў

### Няма Франьё Туджмана

Памёр прэзыдэнт Харватыі. Антыфашысцкі партызан, югаслаўскі генэрал, пасьля дысыдэнт, першы лідэр незалежнай Харватыі пад час югаслаўскай агрэсіі, пераможца сэрбскіх краінаў у маланкавай вайне, якая за 3 дні вярнула Харватыі ўсё страчанае. Цяпер гэты чалавек, якога часта вінавацілі ў патураньні былым усташам, уціску свабоды думкі, цкаваньні лібэральнае інтэлігенцыі, разьдзіманьні антысэрбскай нянавісьці і нават змовах зь Мілошавічам, належыць гісторыі.

# Гутэн таг, саюзьнікі!



На праспэкце Скарыны паляць расейскі сьцяг, 8 сьнежня

Фота IREX-ProMedia

## Замест палітыкі — дысыдэнцтва

Падпісаньне дамовы аб утвараньні саюзу з Расеяй у Менску адзначылі стыхійныя пратэстамі. 75 чалавек зранку ў сераду адгукнуліся, перакрыўшы праспэкт Скарыны жывым ланцугом, трымаючы лёзунгі "Рукі прэч ад Беларусі!", "Не — саюзу". Пратэстаць атрымалася хвілінаў 10, пасьля чаго пад'ехала міліцыя ды адцясьніла пратэстантаў. Тым ня менш, людзі не здаліся й прызначылі працяг акцыі на пятую вечара.

Працяг акцыі быў у значнай меры сарваны з-за затрыманьня намесьніка старшыні БНФ Вячаслава Сіўчыка. Тым ня менш, а 17.25 праспэкт зноў перакрылі, але менш чым на паўхвіліны. Міліцыя падрыхтавалася да магчымага пратэсту, і з двароў умэнт выскачылі пара дзясяткаў міліцыянтаў.

Тады дэманстранты міні-калёнай рушылі ў бок Кастрычніцкай плошчы, але ля цырку шлях ім перагарадзілі ўзброеныя шчытамі ды дубінкамі амонаўцы. Калёна зрабіла яшчэ адну спробу прабіцца да рэзыдэнцыі ў раёне рэстарану "Ўзбэкістан", але ня здолела. 12 чалавек, зь іх шэсьць непаўнагадовых, затрымалі. Сярод затрыманых — паэт Славамір Адамовіч і дэпутат Шчукін. Суды над "няськоранымі" пройдуць у Савецкім судзе ў панядзелак-аўторак.

Шкада толькі, што палітыкі, замест таго, каб зладзіць буйную і арганізаваную акцыю, дамовіўшыся папярэдне, прабіўшыся ў газэты і раскідаўшы ў горадзе ўлёткі, ахвяруюць сабой на акцыях адчаю.

Барыс Тумар, Аляксей Шыдлоўскі

## Шарэцкі зьняў бел-чырвона-белы сьцяг

На тым тыдні да старшыні Шарэцкага прыехаў прызначаны на сэсіі Вярхоўнага Савету генэральны пракурор Беларусі, дэпутат Рыгор Пракаповіч.

Пасьля цырымоніі прадстаўленьня адбылася прэс-канфэрэнцыя для журналістаў. Яна праводзілася ў сядзібе Таварыства Беларускае Культуры, дзе месьціцца і кабінэт С.Шарэцкага. Перад прэс-канфэрэнцыяй сп.Шарэцкі загадаў зьняць са сьцяны бел-чырвона-белы сьцяг, чым выклікаў абурэньне гаспадароў памяшканьня. Аднак мусілі ўсё ж зьняць...

У пачатку новы пракурор паспрабаваў сказаць пару словаў пабеларуску:

— Шаноўныя спадарыні! Шаноўныя сябры! Мне вельмі прыемна быць у гэтым гістарычным будынку разам з вамі. Але па некаторых абставінах далейшую размову з вамі я буду вымушаны весьці на расейскай мове!

Гэты пасаж выклікаў неўразуменьне асабліва ў замежных журналістаў, бо ніхто ня ўцяміў, што гэта за "некаторыя абставіны"... На запыт карэспандэнта радыё "Polonia", чаму з залі прыбралі беларускі сьцяг, пракурор адказаў так:

— Сёньня я ўсім вам хачу тут патлумачыць, што быў адзін цікавы момант у гісторыі, калі адзін генпракурор увязаўся моцна ў палітыку і што з ім здарылася. А той пракурор, які сядзіць перад вамі, ніякай палітыкай займацца ня будзе! І будзе рабіць толькі тое, што прадугледжана законам! І я прашу лічыць вашыя пытаньні некалькі некарэктнымі і нясвоечасовымі.

Тутака ўжо і ў беларусаў, і ў небеларусаў усё ў галовах паблыталася. Што ж тады палітыка, калі ня згода заняць пасаду апазыцыйнага генпракурора? І чаму некарэктна пытаца ў беларускага пракурора пра беларускі сьцяг? Пры чым тут законы?

Аднак блытаніна ўсё гэта падаецца толькі на першы погляд. Пракурор сапраўды мусіць выконваць законы, прынятыя парлямэнтам. А менавіта Вярхоўны Савет 13 скліканьня заканадаўча адмяніў наш сьцяг, і герб, і мову. Цяпер яны і ў Вільню са сваімі законамі прыехалі...

Пасьля афіцыйных мерапрыемстваў віленскія беларусы вярнулі сваю сьвятыню на месца.

Г.К.

### РЭПЭТЫТАРСТВА

*Беларусь цяпер — краіна ценяў. Маем ценявы ўрад, ценявы бюджэт «прэзыдэнта». Недзе блукае цень арміі, які «прэзыдэнт» пужае ценем NATO. Цень парлямэнту зьбіраецца на пасяджэньні. Ценявая сельская гаспадарка, ценявыя банкіры-валютчыкі... Ценявыя дактары робяць ня толькі ценявыя аборты. Не зьяўляецца выняткам і адукацыя. Яна мае свае цені — рэпэтытараў.*

*Тэма нумару — рэпэтытарства, на старонцы 7.*

# Фатограф граф Тышкевіч

***Сэнсацыйная выстава адкрывае нам аднаго з бацькоў беларускае фатаграфіі***



Бэнэдыкт Тышкевіч. Сялянка зь Вялава, Налібоцкая пушча

Цэнтар сучаснага мастацтва ў Вільні сустракае новае стагодзьдзе здымкамі графа Бэнэдыкта Тышкевіча, які нарадзіўся ў родавым котлішчы Тышкевічаў, Лагойску, а меў маёнткі ў Налібоцкай пушчы й пад Коўна. На выставе прадстаўленыя невядомыя ў Беларусі здымкі працы нашага земляка. Зусім унікальна тое, што большасьць зь іх прысьвечаная беларускім народным тыпажам канца таго стагодзьдзя. Гэтая выстава — агульны праект Музэю фатаграфіі гораду Нэсэфор Н'епс (Францыя) і Цэнтру сучаснага мастацтва. Разам з фота графа Тышкевіча (1852—1935) тут прадстаўленыя творы... нашага сучасьніка, француза Джона Бато, які натхніўся здымкамі нашага земляка.

У 1993 годзе музэй Н'епсу выпадкова купіў у парыскага антыквара цудам ацалелы альбом фатаграфіяў Тышкевіча: 86 адбіткаў на кардоннай аснове, якія зафіксавалі разнастайныя мясьціны і людзей Беларусі, Францыі і Італіі. Увогуле, архіў Тышкевіча згарэў пад час першае сусьветнае вайны. Гэткі ж лёс напаткаў і калекцыю твораў мастацтва, што захоўвалася ў беларускім мястэчку Вялаве, што ў Налібоцкай пушчы. Ад усяго, імаверна, застаўся толькі гэты альбом.

Заможны арыстакрат, які атрымаў у спадчыну шмат нерухомасьці й капіталу, знаходзіў радасьць ня толькі ў шляхетных паляваньнях і балях, але і ў археалёгіі й фатаграфіі. Граф арандаваў караблі, каб зьезьдзіць у экспэдыцыі, аб'ехаў Індыю, Кітай, Японію. Аднаго разу нават вакол сьвету на яхце пусьціўся. Свае лепшыя здымкі ён экспанаваў на выставе ў Філядэльфіі, у Амэрыцы (1876). З таго часу да яго прыходзіць сусьветная слава фатографа-падарожніка. У 1883 годзе, калі памірае жонка, граф з трыма дзецьмі вяртаецца ў Францыю, уладкоўваецца ў сваім маёнтку ў Нёі, дзе цалкам прысьвячае сябе фатаграфіі.

Графа Тышкевіча былі забылі ў Беларусі. Хоць яе, свой радзімы край, ён зрабіў несьмяротным у здымках. Тутака і фатаграфіі вяскоўцаў, і местачкоўцаў, і рамесьнікаў. У іх максымальна выявіўся мадэрнізм і рамантызм творцы. Для тагачаснай фатаграфіі былі ўласьцівыя пераапрананьне пэрсанажаў у касьцюмы, не ўласьцівыя часу й сацыяльнаму стану, клясычныя мізансцэны. Фатаграфіі беларускіх сялянаў й вясковых прыгажунаў у строях таго часу, у натуральным асяродзьдзі — гэта сьведчаньне адкрытага сьветапогляду і ўважлівага вока Тышкевіча. Тут і здымкі ягонага палацавага побыту, і інтэр'еры вясковых хатаў і корчмаў, стылёвыя будуары і салёны, сядзібы й кухні, вясковыя сцэнкі і партрэты сваякоў. Прага чалавека таго часу да фатаграфіі рабіла яго адказным перад кожным адбіткам — сярод іх няма выпадковых, а заміляваньне, зь якім пабудаваныя кампазыцыі, сьведчыць аб вялікім прафэсіяналізме. Ягоныя творы — шэдэўры беларускае фатаграфіі.

Граф, фатограф і вандроўнік, што гэтак доўга блукаў далёка ад радзімы, вярнуўся да нас не самотным, а ў кампаніі.

Дзяніс Раманюк

лісты ў рэдакцыю

## Крыўдна, спадар Шарэцкі!

*Чуюся ў абавязку і чуюся вымушанай сумленьнем пісаць да Вас. Бывала, я чуць не крыўдавала на Васіля Быкава за ягонае празьмерна пэсымістычнае прадстаўленьне сытуацыі беларускае справы. Прачытаўшы аднак у "Нашай Ніве" (30) за 8.11.1999 артыкул Андрэя Старавойтава "Нам быць зь Менскам разабрацца", з болем у душы падумала: не дзіўлюся пэсымізму Быкава... Адзін уладар Беларусі, цяпер ужо нелегітымны, аддае Беларусь усходняму суседу, другі, цяпер легітымны, дзякуе жыхарам Вільні, што "на працягу даўгіх стагодзьдзяў давалі магчымасьць прыяжджаць сюды беларусам і ствараць тут свае друкарні (я маю на ўвазе Скарыну), пачынаць тут і нашае пісьменства, і адукацыю..." Вось да чаго, браткі, мы дажыліся!*

*Калісь, у 1972 годзе, калі мы ў Канадзе, ды наагул за мяжой, адзначалі 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі, беларускі вучоны доктар Вітаўт Тумаш пісаў: "Друк на беларускай зямлі зарадзіўся ня ў нейкім правінцыяльным асяродку, але, гістарычна зусім заканамерна, у дзяржаўна-палітычным і культурным цэнтры краю, у тагачаснай сталіцы Беларусі і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, у Вільні...*

*Нацыянальна якая ды чыя была Вільня ў пару, калі там паўставала першая друкарня, друкарня доктара Скарыны, сьведчыць яскрава тое, што з усіх 21 хрысьціянскіх сьвятыняў места таго часу 14 было праваслаўных і толькі 7 каталіцкіх. З каталіцкіх жа 2 — сьвятой Ганны й сьвятога Мікалая — збудаваныя намецкаю каленіяй Вільні, абслугоўвалі рэлігійныя патрэбы нямецкіх рамесьнікаў і купцоў, былі нямецкімі. Катэдра ж і чатыры касьцёлы іншыя служылі таму беларускаму баярству й мяшчанству, што ўжо былі каталіцкай веры, невялікаму тады яшчэ лікам мяшчанству польскаму ды жыхаром розных іншых дробных нацыянальнасьцяў.*

*...Жыхарства ў Вільні ў часы Скарыны ў дзьвёх найменш трэціх па веры было праваслаўным, па нацыянальнасьці ж у вялікай большасьці беларускім. Дык усе гутаркі савецкіх казённых гісторыкаў аб тым, што калі доктар Скарына друкаваў свае кнігі ў Вільні, дык друкаваў на чужой сабе, на жамойцка-лятувіскай зямлі — хвальшаваньне гістарычнае праўды. Вільня была тады местам беларускім, праваслаўным, Скарына дзеіў у сваім нацыянальным асяродзьдзі, калі друкаваў для таго народу, зь якога сам паходзіў, сярод якога жыў.*

*...Вільня ў часы Скарыны не была напэўна местам лятувіскім. Ніколі не была яна гэткаю й праз усе пазьнейшыя вякі, калі места перажывала часы акаталічаньня, палянізацыі, канцэнтрацыі жыхарства жыдоўскага, ды пасьля масавы наплыў расейскага чыноўніцтва. Не была Вільня лятувіскай па складзе сваіго жыхарства й тады, калі ўвосені 1939 году Масква аддавала места з бліжэйшымі ваколіцамі... тагачаснай Лятувіскай рэспубліцы.*

*Міжваенныя перапісы ў больш як 200-тысячнай Вільні не рэгістравалі й 2000 (двох тысячаў) жыхароў лятувіскай нацыянальнасьці, ці або яна не складала й 1% усяго жыхарства. Ніякага лятувіскага жыхарства не было й на колькі дзясяткаў кілямэтраў навакола Вільні. Ведалі дасканала гэта й тагачасныя валадары савецкае імпэрыі, калі перадавалі Вільню тым на яе прэтэндэнтам, што ніякіх аб'ектыўных падставаў на места не мелі".*

*І пасьля др.Тумаш піша:*

*"Вось пры гэткім культурна-мэханічным трактаваньні партыйнай гістарыяграфіяй гісторыі беларускага народу савецкім гісторыкам даводзіцца цяпер пісаць, што не ў Беларусі, але Жамойці-Летуве, бо ж у Вільні, беларускія кнігі друкаваў доктар Скарына, а па ім слаўны Пётра Мсьціславец, знакамітая Друкарня Дому Мамонічаў ды іншыя беларускія друкары, што ў Жамойці-Летуве складаўся ды выдаваўся Літоўскі Статут, а ня гэтак яшчэ даўно выходзіла там і "Наша Ніва" — ды розныя падобныя нябыліцы. Пісаць гісторыю беларускага народу ды без гісторыі нацыянальна-духовага цэнтру краю, сталічнае Вільні, гэта такая ж недарэчнасьць, як калі б нехта прабаваў пісаць гісторыю старажытнае Грэцыі ды без гісторыі Афінаў".*

*Такою ж недарэчнасьцю ёсьць і словы Сямёна Шарэцкага.*

**Раіса Жук-Грышкевіч, Таронта**

## Конкурс на лепшую вясковую школу

*Таварыства Беларускай Школы і Таварыства Беларускай Мовы імя Скарыны распачынаюць конкурс на лепшую беларускую вясковую школу. У гэтым конкурсе могуць браць удзел усе вясковыя і мястэчковыя школы Беларусі, а таксама любыя (гарадзкія і вясковыя) школы, ліцэі, дашкольныя ўстановы, нядзельныя школкі за межамі краіны, у якіх вывучаецца беларуская мова, гісторыя і культура Беларусі.*

*1 ЭТАП. Да канца студзеня 2000 году школы, што хочуць узяць удзел у конкурсе, мусяць на адрас аргкамітэту даслаць матэрыялы пра ўстанову і яе працу і даць вольны адказ на наступныя пытаньні (для ўстановаў з замежных краінаў іх можна зьмяняць з улікам акалічнасьцяў навучаньня):*

*1. Колькасьць (і працэнт) дзетак, ахопленых беларускамоўным навучаньнем.*

*2. Якія мерапрыемствы, гурткі ды іншыя формы дзейнасьці ўстановы найлепш садзейнічаюць захаваньню культурнай і гістарычнай спадчыны?*

*3. Якія дысцыпліны (клясы і колькасьць навучэнцаў) вывучаюцца ў школе на расейскай ды іншых мовах?*

*4. На якой мове вядзецца справы, нарады, візуальнае аздабленьне?*

*5. Якія газэты і часопісы выпісвае школа?*

*6. Ці ёсьць у школе суполкі ТБМ, ТБШ ды іншых арганізацыяў?*

*7. Калі школа мае музэй, апішыце яго.*

*8. Як укамплектаваная бібліятэка?*

*9. Ці бяруць удзел вучні ў конкурсах, алімпіядах? Якія вынікі?*

*Дасылайце таксама ілюстрацыі дзейнасьці, дакумэнты (альбомы, газэты, копіі граматаў і іншае).*

*2 ЭТАП. Люты 2000 г. — вызначэньне пераможцаў шляхам аналізу дасланых матэрыялаў і праз наведваньне сябрамі Журы лепшых навучальных установаў ды вызначэньня першага, другога ды трэцяга месцаў. Журы конкурсу вызначыць 7 лепшых школаў: па адной у кожнае вобласьці Беларусі ды адну ў замежжы.*

*На сустрэчу па выніках конкурсу для атрыманьня граматаў ды каштоўных падарункаў у Менск будуць запрошаныя па два прадстаўнікі ад кожнае школы-пераможцы. Прадугледжаныя таксама і дадатковыя прызы для школаў, што не ўвайшлі ў лік пераможцаў: бібліятэчкі, падпіскі на газэты ды часопісы, ільготныя пуцёўкі школьнікам на адпачынак за мяжою ды іншае.*

*Адрас Аргкамітэту і Журы: ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", Румянцава 13, Менск, 220005. Тэл.: (017) 284-85-11.*

**ТБМ імя Францішка Скарыны**

## Эліта — творчыя людзі

*Я не зраблю сваім сябрам маральна слабога чалавека й не аддам перавагу чамусьці няпэўнаму й галярэткападобнаму. Адсюль — нізавошта не падтрымаю эліту, якая сама ня здольная знайсьці нейкае апірышча. Урэшце, на тое яна й эліта, каб мець і мэту, і добра акрэсьленыя шляхі яе дасягненьня.*

*Здаецца, сп.Клачоўскі меў на ўвазе эліту як крэатыўна-актыўную частку грамадзтва, а ня кола слаба заарганізаваных інтэлігентаў, што нічога прафэсійнага ня робяць, але лічаць сябе беларускімі Палітыкамі, Эканамістамі, Мастакамі. Больш за тое, за свае памылкі яны аніколі ня просяць прабачэньня ў не-эліты, а памылка (яе прызнаньне) сьведчыць пра наяўнасьць дзейнасьці й прадугледжвае ейны працяг.*

*Няслушным падаецца атаясамленьне сп.Паўлоўскім эліты з інтэлігенцыяй. Згаджаюся, што інтэлігенцыя — падмурак эліты. Але нашая — нейкая сыраватая, можа таму, што ў большасьці складаецца з моладзі, якая яшчэ ня мае ўстойлівых прынцыпаў маральнасьці што да выбару і яго рэалізацыі. У такіх умовах годнасьць нярэдка падмяняецца максымалізмам.*

**Л.Куратава**



Фота IREX-ProMedia

# ВОЧАРАДЗЬ К ПРЭЗІДЗЕНТУ І ЛАНЦУГІ МІЛІЦЫІ

***6 чалавек усё ж прабраліся за ланцугі, перадалі пэтыцыі ды вярнуліся жывыя й здаровыя***

Сапраўдны пярэпалах выклікала бяскрыўдная ініцыятыва беларускай апазыцыі занесьці пэтыцыі-патрабаваньні Лукашэнку. Ужо за пару гадзінаў да меркаванага прыходу людзей цэнтар Менску і асабліва кварталы вакол прэзыдэнцыі былі напоўненыя міліцыянтамі, у дварах стаялі аўтобусы з амонам. А палове на шостую перакрылі выхад з мэтро "Купалаўская" да рэзыдэнцыі Лукашэнкі.

А шостай жа вечара на ходніках ля Купалаўскага тэатру стаяла добрых чалавек 40 журналістаў ды прыкладна столькі ж актывістаў апазыцыі з пэтыцыямі-патрабаваньнямі ў руках. Рэзыдэнцыю ачэплівалі з усіх бакоў шчыльныя ланцугі з сотні "людзей у блакітным", пратачыцца праз якія было немагчыма.

Але ўсё ж пратачыліся. Пакуль міліцыянты глядзелі, што будзе рабіць натоўп ды слухалі Багданкевічавы словы пра тое, што ён мае права прынесьці пэтыцыю, шпаркім бегам да адміністрацыі праслізнулі намесьнік старшыні БНФ Алесь Бяляцкі й супрацоўнік "Вясны-96" Уладзімер Падгол, перадалі патрабаваньні ды вярнуліся жывыя й здаровыя. Усяго ж за вечар перадаць патрабаваньні здолелі шэсьць чалавек, у тым ліку лідэр сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч.

Вялікага пудла далі міліцыянты зь вялікаю групаю школьнікаў, чалавек з 200, якія разам з настаўніцамі крочылі на спэктакль у Тэатар юнага гледача, што знаходзіцца якраз побач з рэзыдэнцыяй. Міліцэйскія кардоны, замест таго, каб расступіцца, узялі адзін аднога пад локці ды сталі ў стойку. Настаўніца мусіла разьвярнуць калёну ды пайсьці ў абход вуліцамі Леніна ды Першамайскай, а гэта шлях мінімум з кілямэтар.

**Аляксей Шыдлоўскі**

менскія нетры

# "ГОТЫКА"

Нягледзячы на ўсе разбурэньні, у глыбінях Менску захаваліся яшчэ таямнічыя, амаль сярэднявечныя кварталы, прасякнутыя духам даўніны. Калі пайсьці па вуліцы Кастрычніцкай, ужо за віна-гарэлачным заводам "Крышталь" трапляеш у гэткага кшталту рамантычныя мясьціны: абадраныя чырвонацагляныя сьцены, маладыя (і ня дужа) дрэўцы на дахах, цёмныя ваканіцы, сяк-так зацыраваныя дошкамі ды бляхай (шкло вылецела яшчэ пад час налётаў авіяцыі ў 44-м). І хоць гэта ніякая не старажытная фартэцыя, а ўсяго толькі закінутыя будынкі нейкага былога гіганту індустрыі, аднак ад іх патыхае такой змрочнай готыкай!.. Выдатна ўпісваецца ў архітэктурны кантэкст вуліцы і Менскі станкабудаўнічы завод, што месьціцца паблізу — толькі цэлыя шыбы да бюст Ільліча ля варотаў вылучаюць яго сярод навакольных руінаў. Складаецца ўражаньне, што літара "с" дададзеная да назвы гэтага заводу толькі для канспірацыі, і што гатовая прадукцыя час ад часу выяжджае праз прахадную й кіруецца "на месца дысьлакацыі". Пра гэта, прынамсі, сьведчыць стан дарогі. Пад час таяньня сьнегу, калі ўсе няроўнасьці паверхні вул.Кастрычніцкай ператвараюцца ў глыбокія калюгі, трэба быць асабліва пільным — каб ня трапіць пад халодны душ, які можа зрабіць вам любая сустрэчная машына. Што праўда, цяпер тут няма амаль ніякага руху — чыгуначны пераезд, што злучаў вуліцу Кастрычніцкую з Партызанскім праспэктам, закрылі на рамонт, перattваварыўшы яе тым самым у тупік з аднайменнай назвай. Магчыма, гэта было зроблена спэцыяльна — такія месцы можна выкарыстоўваць з большай эканамічнай выгадай, скажам, для ажыцьцяўленьня турыстычнага бізнэсу: рамантыкаў, «завернутых» на фэнтэзі, сярод багатых эўрапейцаў хапае.

**Андрэй Скурко**

Самая папулярная незалежная беларуская газэта

ПАГОНЯ

Падпішыся на ПАГОНЮ!!!
Падпісны індэкс 63124
Кошт на квартал — 1 мільён 800 тысячаў

RADIO FREE EUROPE RADIO LIBERTY

БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

Новыя хвалі ад 31 кастрычніка 1999 году

| Час | Хвалі |
|---|---|
| 18.00-19.30 паводле менскага часу | 6000 і 6170 кгц (49 м) 7155 кгц (41 м) 9615 кгц (31 м) |
| 22.00-23.30 паводле менскага часу | 6010 і 6025 кгц (49 м) 6170 і 7155 кгц (41 м) |
| 6.00-7.00 паводле менскага часу | 5995 кгц (49 м) 7275 і 7295 кгц (41 м) 9750 кгц (31 м) |

Сталая частата на сярэдніх хвалях — 576 кгц

Адрас: 220005 Менск-5, п/с 111; Vinohradska 1, Praha 110 00 CZ

Праграму можна слухаць, чытаць, а таксама пісаць у рэдакцыю праз Інтэрнэт WWW.SVABODA.ORG

НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!

лісты ў рэдакцыю

# БЕЛАРУСЬ ПАСЬЛЯ ЛУКАШЭНКІ

*Каб мець лепшую будучыню, трэба яе сабе ўяўляць. Мары, вядома, справа добрая, але практычнага толку ад іх ня больш, чым ад спадзеву, што ўсё неяк зьменіцца само. Сёньняшнія мары пра дэмакратыю, рынак і незалежнасьць надта нагадваюць рамантычныя абстракцыі мінулага стагодзьдзя — пра свабоду, роўнасьць і братэрства. Як і тады, сёньня або спадзяесься на цуд, або ідзеш гатовы загінуць за Беларусь, або ўжо нікому і ні ўва што не верыш. Словам, жывеш як нявольнік або змагар, а не як гаспадар і будаўнік. Пры ўсёй аб'ектыўнасьці такога раскладу трэба думаць, што і ад нас, людзей паспалітых, нешта залежыць у нашым жыцьці і ў нашай будучыні. Таму давайце пагаворым пра заўтра, пра Беларусь пасьля Лукашэнкі, пра тое, што трэба зрабіць найперш, якія законы прыняць, як па-добраму наладзіць гаспадарку, "што рабіць з калгасамі", што перадусім зьмяніць у адукацыі, у культуры, у спорце і войску, паўсюль. Адно ня будзем зьбівацца на мары, а будзем вельмі канкрэтна казаць пра зусім практычныя рэчы. Рэдакцыя "Нашай Нівы" запрашае ўсіх сваіх чытачоў да абмеркаваньня найважнейшых плянаў на заўтра.*

Усе нашыя суседзі, якія вырваліся ці вырываюцца з расейскае арбіты і імкнуцца ў Эўропу, а найперш — да самых сябе, сутыкнуліся з праблемай люстрацыі. І ў гэтай справе для розных краінаў на розных этапах важнымі станавіліся розныя прадметы люстрацыі. Да прыкладу, калі ў былой ГДР чыстка дзяржаўнага апарату адбывалася паводле прыналежнасьці чыненства да камуністычнае партнамэнклятуры (у нас на мітынгах пра гэта гаварылі ў 91-м), дык у Літве ўжо прадмет люстрацыі выглядаў больш вузка. Былая камуністычная партыя там стала ініцыятарам дэмакратычных пераменаў і незалежнасьці краіны. Яна зьмяніла назву і ператварылася ў адну з рэальных і ўплывовых палітычных сілаў. Таму ў Літве люстрацыі падлягаюць, у выніку нядаўняе дыскусіі, толькі функцыянэры савецкага КГБ. Яны, прынамсі, ня могуць займаць адказных дзяржаўных пасадаў.

Гаварылі ў нас і пра гэта, толькі ўжо ў апазыцыйных кулюарах. Але часы зноў мяняюцца, і разам зь імі мяняецца тое грамадзкае зло, якое мусіць быць выдаленае дзеля аздараўленьня.

Ня думаю, што ў нас сёньня было б актуальна скіроўваць люстрацыю супраць савецкае партыйнае намэнклятуры. Тыя камуністы на пэнсіі, дый шкода ад іх, як такіх, не апошняя па часе. Тое самае тычыцца і КГБ, які ў жыцьці краіны, а нават і ў агульным аб'ёме яе насельніцтва займае настолькі істотную долю, што становіцца неадымным. Паспрабуйце заўтра падняць справы ўсіх стукачоў і таптуноў нават за апошнія толькі гады, і вы атрымаеце легіён. Узяць адно чэкісцкае начальства? — аднак іхныя грахі ўласьцівыя ня толькі КГБ, але й МУС, і іншым сілавым і несілавым структурам, якія разганялі мірных дэманстрантаў, душылі свабоду і зьбівалі людзей у пастарунках. Яшчэ адзін легіён... Спатрэбіліся б доўгія гады, каб разграбаць гэтыя тысячы і тысячы справаў.

Гутарка йдзе не пра канкрэтныя злачынствы, якія ўчыненыя людзьмі рэжыму і кара за якія прадугледжваецца Канстытуцыяй. Гутарка ідзе пра ачышчэньне ўсяго грамадзтва, пра зьмену грамадзкага клімату і пра тое, ад чаго сёньня краіна церпіць найбольш.

На маю думку, інструмэнтам люстрацыі ў Беларусі мог бы стаць закон аб адказнасьці за разбурэньне нацыянальнае тоеснасьці беларусаў. Прынамсі сёньня такое разбурэньне найбольш аддаляе нас ад будучыні, ад нармалізацыі. Маю на ўвазе і тых, хто ініцыяваў закрыцьцё беларускіх школ і клясаў, і тых, хто зьвёў амаль на ніўшто беларускую дзяржаўную выдавецкую дзейнасьць, і тых, хто зьмяніў шыльды на будынках. Маю на ўвазе таксама і зьявы, якія спрычыняюцца да разбурэньня тоеснасьці. Пяць каналаў расейскае тэлевізіі, FM-радыёстанцыі, якія ў Менску ад нейкага часу гавораць ня толькі па-расейску, але яшчэ й з маскоўскім пранонсам. Але найперш маю на ўвазе бытавую беларусафобію, якая распаўзаецца па кіраўнічых асяродках, як нафтавая пляма па моры. Згаданы закон стаўся б юрыдычнай базай для спыненьня такой дзейнасьці і такіх праяваў.

Люстрацыйныя мерапрыемствы заўсёды ставалі прадметам шырокага абмеркаваньня і ў выніку прыводзілі да карэкцыі грамадзкага зроку. Паміж іншым у нас, вядома, усе самі беларусы і шануюць свой край і сваю мову. Але ў чым канкрэтна выражаецца гэтае шанаваньне — мусіць акрэсьліць новы закон. Чалавек не павінен сваё, прынамсі, абражаць і ставіцца да яго варожа. Адгэтуль пачнецца выроўніваньне грамадзкіх дачыненьняў. Адгэтуль, насуперак бясконцым саюзным дамовам, прыйдзе найгалоўнае ўсьведамленьне — у якой краіне мы ўсе жывем. А бяз гэтага — без усьведамленьня месца — ня прыйдзе і ўсьведамленьне часу — будучыні, пра якую мы марым.

**Алесь Кебік**



# ПРА ШТО МЫ МАРЫМ?

***Апытаньне "НН"***

Ці можна ўбачыць мару цэлага народу? І ці здатны чалавек самому сабе адказаць на пытаньне пра сваю сапраўдную мару?

Паэт Славамір Адамовіч кажа пра мару аб нармальнай краіне Беларусі, дзе ён і ягоныя сябры й аднадумцы будуць жыць годна — "адпавядаць свайму статусу". Што да асабістага лёсу, Славамір кажа, што заўжды хоча быць поўным фізычных і творчых сілаў...

Кабета — дырэктар дробнай прыватнай фірмы — кажа, што яна выхавана старой традыцыі. Таму ў яе заўжды была мара сустрэць мужчыну, за якім "як за каменнай сьцяной". Цяпер у яе ёсьць муж, дзіця. У справах і ў сямейнай гаспадарцы ўсё ладзіцца. Але кабета скардзіцца, што яе пужае адсутнасьць мараў:

— Штовечар кладуся спаць і думаю: ёсьць у мяне мары ці не? Дзіцёнак кажа — мама, чаму ва ўсіх маці сядзяць дома, а ты ўсё кудысьці ляціш-сьпяшаесься. У мяне часу няма нават для дэпрэсіі...

Цікава, што збольшага адказы менскіх мінакоў не залежалі ад узросту. Вядома, былі паджылыя людзі, якія казалі пра свае хваробы, пра тое, што галоўная ў іх мара — гэта памерці спакойна. Былі пахмурыя маладзёны, якія скардзіліся на брак грошай і адсутнасьць пэрспэктывы для нармальнага жыцьця. Былі такія адказы:

— Малады чалавек, я іду з работы, я вельмі стамілася. У мяне маленькая зарплата, мне трэба думаць, як купіць дзіцяці новы абутак на зіму. Якія мары? Хачу нармальна жыць.

Так ці йнакш, асабістыя мары людзі зьвязвалі з становішчам краіны. Трыццацігадовы спадар:

— Якія асабістыя мары пры такой уладзе?! Яшчэ чатыры гады таму ў мяне быў свой невялікі, але стабільны бізнэс. Як і плянаваў, я б ужо даўно яго пашырыў. На сёньняшні момант аднаго з маіх кампаньёнаў пасадзілі, а я, замест таго, каб працаваць, мушу даказваць, што я не вярблюд. Пакуль ня зьменіцца ўлада, нічога ня будзе.

Спадар сказаў, што марыць, каб ягоны пяцігадовы сын вырас у нармальным асяродку. Таму ён зробіць усё магчымае, каб выправіць сына вучыцца за мяжу.

Беларусы жадаюць лепшага. Проста лепшага. Слова "лепшае" — ключавое ў адказах пра мару. Якое "лепшае"? — адказ на гэтае пытаньне кожны шукае па-свойму.

Вось адказ маладой кабеты:

— Я ня буду казаць вам пра сваю запаветную мару. Яна вельмі асабістая. Яна зьвязаная з адным чалавекам... Я веру, што ў нас усё будзе добра.

Можна правесьці сацыялягічнае апытаньне і высьветліць палітычныя жаданьні грамадзянаў. Можна ўсіх увесьці ў стан гіпнозу, і прымусіць мысьліць на падсьвядомым узроўні. Але, патаемнае жаданьне альбо запаветная мара застанецца самай няўлоўнай субстанцыяй.

Вось што мне сказаў малады хлопец, які ня лічыць сябе прыналежным да якой-колькек пэўнай канфэсіі:

— Чалавек створаны па вобразе Бога. Бог — абсалют і любоў. Вось вам адказ — чалавек імкнецца да абсалютнае любві, безь якое ня можна быць чалавекам. Таму любая мара так ці інакш зьвязаная з словам "любоў". А інакш яна несапраўдная.

**Апытваў Севярын Квяткоўскі**

# ЧЫТАЧАМ «НН», ЯКІЯ КУПЛЯЮЦЬ ГАЗЭТУ Ў «БЕЛСАЮЗДРУКУ»

Шаноўныя людзі!

Вельмі просім: калі Вы купляеце газэту штотыдня, дык, калі ласка, замест гэтага падпішыцеся на «Нашу Ніву». Вам гэта выйдзе яшчэ таньней, а мы, калі стане болей падпісчыкаў, зможам ужо на пачатку 2000 году перайсьці з 12 да 16 старонак штотыднёва. Вось чаму: продаж праз «Белсаюздрук» выходзіць для газэты стратным, а падпіска прыносіць прыбытак (хоць для Вас падпіска таксама абыдзецца таньней, чым набываць у кіёску). Бо калі прадаюць газэту ў шапіку, дык 40% кошту «Белсаюздрук» бярэ сабе, а рэшту грошай нам вяртае толькі праз 3 месяцы. І мы ня маем, як разьвівацца.

Дык падпішыцеся, калі ласка (да 15 або да 23 сьнежня, калі на шапік).

Раней менчукам невыгодна было падпісвацца, бо газэты прыносілі дахаты толькі ва ўторак, а ў шапіку можна было набыць ужо ў панядзелак, але цяпер вельмі выгодная й дужа танная ёсьць падпіска на шапік, калі газэту забіраеш у шапіку (хочаш — у панядзелак, хочаш — калі хочаш). Гэта вельмі зручна і для тых, хто жыве ў інтэрнатах. Пра гэтую падпіску мы тут у газэце паведамляем і даем сьпіс шапікаў.

Заадно даем Вам знаць, што мы ўжо з наступнага году будзем выходзіць штотыднёва, безь перапынку, а не 4 разы на месяц, як цяпер.

Вельмі важна для нас, каб Вы падпісаліся. Ну, а калі няма цяпер грошай, купляйце так. Беларусь мяняецца, «Наша Ніва» застаецца.

**Рэдакцыя**



**Ідзе падпіска на «Нашу Ніву» на 2000 год:**

Падпіска звычайная:
на 1 месяц — 256 000 руб.
на 3 месяцы — 768 000 руб.
на 6 месяцаў — 1 536 000 руб.

Для менчукоў падпіска «да запатрабаваньня» (каб забіраць нумар у шапіку «Белсаюздруку» ў дзень выхаду газэты — гэтая падпіска прымаецца да 23 дня перадпадпіснога месяца):
на 1 месяц — 236 000 руб.
на 3 месяцы — 708 000 руб.
на 6 месяцаў — 1 416 000 руб.

Падпісны індэкс 63125.
Нас цяжка купіць у «Белсаюздруку».

НАША НІВА

**Ніжэй мы падаем сьпіс пунктаў, дзе можна падпісацца й забіраць газэту:**

| Пункт | Адрас |
|---|---|
| 1. Кастрычніцкі пункт падпіскі | вул. Жукоўскага, 5, к. 1 |
| 2. Партызанскі пункт падпіскі | вул. А.Кашавога, 8 |
| 3. Першамайскі пункт падпіскі | пр. Ф.Скарыны, 113 |
| 4. Фрунзенскі пункт падпіскі | вул. Рам. Слабада, 9 |
| 5. Крама № 1 | вул. Жукоўскага, 5 |
| 6. Крама № 2 | пр. Ф.Скарыны, 44 |
| 7. Крама № 3 | пр. Ф.Скарыны, 76 |
| 8. Крама № 4 | вул. Леніна, 15 |
| 9. Крама № 6 | вул. Філімонава, 1 |
| 10. Крама № 7 | вул. Якуба Коласа, 69 |
| 11. Крама № 8 | вул. Сурганава, 40 |
| 12. Крама № 9 | пр. Ракасоўскага, 140 |
| 13. Крама № 10 | вул. Асіпенкі, 2 |
| 14. Крама № 11 | пр. Пушкіна, 77 |
| 15. Крама № 12 | вул. Кіжаватава, 80 |
| 16. Крама № 13 | вул. Каліноўскага, 82, к. 2 |
| 17. Крама № 14 | вул. Валадарскага, 22 |
| 18. Крама № 15 | вул. Максіма Танка, 16 |
| 19. Крама № 16 | вул. В.Харужай, 24 |
| 20. Крама № 17 | вул. Някрасава, 35 |
| 21. Крама № 18 | ст. м. «Плошча Перамогі» |
| 22. Крама № 19 | пр. Машэрава, 51, к. 1 |
| 23. Крама № 20 | вул. Ясеніна, 16 |
| 24. Крама № 21 | станцыя мэтро «Пушкінская» |
| 25. Крама № 23 | вул. Славінскага, 39 |
| 26. Крама № 24 | вул. Жылуновіча, 31 |
| 27. Шапік № 34 | гатэль «Менск», пр. Ф.Скарыны, 11 |
| 28. Шапік № 136 | ст. м. «Пл. Я. Коласа», выхад да Ак. Ф-ры |
| 29. Шапік № 187 | гатэль «Беларусь», вул. Старажоўская, 15 |
| 30. Шапік № 262 | гатэль «Плянэта», пр. Машэрава, 31 |
| 31. Шапік № 78 | гатэль «Юбілейны», пр. Машэрава, 19 |
| 32. Крама №25 | вул. К. Маркса, 21 |
| 33. Шапік №2 | Лінгв. унів-т, вул. Захарава, 21 |
| 34. Шапік №16 | гатэль «Сьвіслач», вул. Кірава, 13 |
| 35. Шапік №18 | Тэхн. унів-т, вул. Сьвярдлова, 13/4 |
| 36. Шапік №37 | Дом Ураду, вул. Савецкая, 11 |
| 37. Шапік №38 | Пэдаг. унів-т, вул. Савецкая, 18 |
| 38. Шапік №40 | Менгарвыканкам, пр. Ф. Скарыны, 8 |
| 39. Шапік №88 | Менаблвык-м, вул. Энгельса, 4 |
| 40. Шапік №95 | вул. Мясьнікова, 39 |
| 41. Шапік №198 | Эканамічны унів-т |
| 42. Шапік №209 | МАЗ, вул. Сацыялістычная, 2 |
| 43. Шапік №228 | Унів-т культуры, вул. Рабкораўская, 17 |
| 44. Шапік №232 | МЗХ, пр. Машэрава |
| 45. Шапік№243 | Саўмін, вул. Савецкая, 9 |
| 46. Шапік №245 | Бальніца хут. дапамогі, вул. Кіжаватава, 56 |
| 47. Шапік №298 | пр. Машэрава, 75/1 |
| 48. Шапік №302 | 9-я бальніца |

спорт

# МЕНСК ПРЫМАЕ ВЯЛІКІ ХАКЕЙ

Менск даўно ўжо не гасьціў спаборніцтваў такога ўзроўню — не дазваляе гаспадарчы занепад. Але вось з 13 да 19 сьнежня ў сталіцы будзе праходзіць чэмпіянат сьвету па хакеі сярод юнакоў (да 20 гадоў) у сусьветным дывізіёне "В". Год таму наша нацыянальная каманда выступала ў дывізіёне "А", але заняла там апошняе месца. Сёлета задача ў іх вельмі канкрэтная — перамога на чэмпіянаце ў Менску, што дасьць права на вяртаньне ў групу наймацнейшых.

Супернікамі ў нашых хакеістаў будуць Нямеччына, Італія ды Латвія. Падгрупу "В" складуць Польшча, Нарвэгія, Данія і Францыя. Пасьля аднакругавых турніраў у падгрупах па дзьве мацнейшыя каманды з кожнай і разыграюць першае месца.

Гуляць будуць у Палацы спорту (пр.Машэрава 4) і ў Лядовым палацы (вул.Прытыцкага).

Нашы хакеісты першыя тры гульні згуляюць у панядзелак, аўторак і чацьвер у Палацы спорту. Пачатак усіх гульняў а 18.30. Фіналы пройдуць у Палацы спорту ў суботу ды нядзелю. Пажадаем посьпехаў нашым хакеістам і прыйдзем іх падтрымаць. Квіткі на матчы з удзелам зборнай Беларусі каштуюць 500 тыс. рублёў (дзіцячы — 100 тыс.). На матчы астатніх камандаў уваход бясплатны.

Аляксей Шыдлоўскі

# У ТОКІО КІНУЛІ ЖЭРАБЯ

На пачатку тыдня ў сталіцы Японіі выразшылі лёсы адборачных групаў футбольнага чэмпіянату сьвету 2002 году. Зборная Беларусі гэтым разам трапіла ў пятую эўрапейскую адборачную групу разам з нацыянальнымі камандамі Нарвэгіі, Польшчы, Валіі, Украіны і Арменіі. З валійцамі ды з Нарвэгіяй нашыя ўжо былі нейк у адной групе, дык усе гульні ім прайгралі. Украінская каманда разам са сваім супэртандэмам форвардаў Шаўчэнка-Раброў — адна з наймацнейшых у Эўропе.

Спаборніцтвы пачнуцца ўвосені 2000 году і працягнуцца 12 месяцаў. Каманда-пераможца групы трапіць на чэмпіянат сьвету ў Токіо. Застанецца шанец і ў зборнай, што зойме другое месца (на што так спадзяецца беларускі галоўны трэнэр Бароўскі). Яна будзе гуляць пераходныя гульні.

Зрэшты, як заявіў кіраўнік Расейскага Футбольнага Саюзу Вячаслаў Каласкоў, "пасьля падпісаньня дамовы аб саюзе Беларусі і Расеі ў сьвеце мусіць выступіць аб'ядная нацыянальная зборная". Дык ці не апошні гэта афіцыйны турнір нашых футбалістаў?

А.Ш.

новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Д.Бічэль. **Снапок:** Выбраныя вершы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 446 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-02-0209-4

*Гэты томік гарадзенскае паэткі Данута Бічэль стаўся падсумаваньнем папярэдніх гадоў ейнае творчасьці. У кнігу ўлучаныя вершы з 11-ці зборнікаў.*

А.Булыка. **Слоўнік іншамоўных словаў:** У 2 т. Т. 1: А — Л. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 1999. — 736 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0152-4

А.Булыка. Слоўнік іншамоўных словаў: У 2 т. Т. 2: М — Я. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 1999. — 736 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0152-4

*Першы ў Беларусі лексыкаграфічны практычны даведнік зь іншамоўнае лексыкі на 25 тысячаў словаў. Тлумачацца найбольш пашыраныя тэрміны. Цана двух тамоў у кнігарнях пайтара мільёны, у выдавецтве таньней.*

**Назаўсёды разам:** Да 60-годзьдзя ўзьяднаньня Заходняе Беларусі з БССР. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 1999. — 256 с.: іл. — Наклад 2100 ас. ISBN 985-11-0154-0

*Кніга выпушчаная як дзяржаўны заказ і пойдзе ў рэгіёны. У менскіх кнігарнях яе, як паведамілі ў выдавецтве, напэўна ня будзе, а як зьявіцца, дык толькі пры канцы сьнежня ў малой колькасьці.*

С.Падокшын, С.Сокал. **Палітычная й прававая думка Беларусі XVI—XVII ст.** Сэрыя "Гісторыя Бацькаўшчыны", дадатак да часопіса "Права й эканоміка". — Менск: 1999. — 116 с. — Наклад 250 ас. ISBN 985-442-028-5

С.Шарэцкі. **Наш беларускі Дом. Лёс нацыі на эўрапейскім скрыжаваньні.** — Менск: Выдавецтва "Бацькаўшчына", 1999. — 270 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6026-14-8

Г.Штыхаў. **Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі.** Сэрыя "Гісторыя Бацькаўшчыны", дадатак да часопіса "Права й эканоміка". — Менск: 1999. — 76 с. — Наклад 250 ас. ISBN 985-442-028-3

*Гэтае выданьне простаю моваю дасьведчанага аўтара распавядае аб паўстаньні дзяржаўнасьці на беларускіх землях, адылі цана палохае — мільён "зайцоў" за 76 бачын пад тонкай вокладкай.*

Чытаў кнігі Віктар Мухін

дзе варта быць

## Сеpieliny

70 гадоў таму аэрастат "Graf Zeppelin" узьняўся ў неба над Бэрлінам, каб абляцець вакол зямлі. **16 сьнежня а 19-й з "Магна-клюбу" (былы "Акварыюм") стартуюць нашыя беларускія "Цэпеліны", народжаныя "Новым Небам".** За капітана будзе Кася Камоцкая, а за навігатараў — Юрка Асенік, лідэр польскага гурта "R.F.Braha", ды Слава Корань з "Уліcу". Сьпяшайцеся: на борце засталося яшчэ колькі вольных месцаў. Квіток на "Цэпелінаў" каштуе 800 тыс., а тых, хто жадае хаця б на вечар паляцець далей адсюль, больш чым дастаткова.

## Маладэчна: Адамовіч і Бартосік

**15 сьнежня ў Маладэчне ладзяць сустрэчу са Славамірам Адамовічам і Зьмітром Бартосікам.** Першы будзе чытаць вершы, другі — сьпяваць. Абодва падзеляцца сваімі думкамі пра нашыя сёньня й заўтра. У 13.30 у іх будзе сустрэча з вучнямі ў 11-й школе, а а 16-й ужо ўсе маладэчанцы запрашаюцца на вечарыну ў Музычную вучэльню імя Агінскага.

## Маладыя Рок

"Першая Пляцоўка" — назва фэстывалю маладых рок-камандаў. **17 сьнежня ў ДК "Сукно" (Матусевіча, 20) ладзіцца адборачная імпрэза фэстывалю з удзелам дзесяці гуртоў: "ТТ-34", "Deadmarsh", "Голая Манашка" і інш.** Маеце шанец пагладзець на "пошук новых цікавых тварaў будучыні беларускае рок-музыкі". У любым выпадку будзе адвязна. Квіткі па 850 тыс. "бырыкаў".

## "Млын" ды "Exist"

Яны зусім маладыя (першаму — паўтара, другому — два з паловай гады). Іх амаль ня чулі. Іх амаль ня ведаюць. Пакуль што. **19 сьнежня "А-клюб" (больш вядомы як "Альтэрнатыва" — на Бяды, 4) прэзэнтуе канцэрт гуртоў "Млын" ды "Exist".** Вечарына носіць назву **"New Generation-2000"** і прысьвячаецца моладзі апошняй паловы 90-х. "Млын" грае сваю першую праграму пад паходнай назвай "Старонкі", а "Exist" падрыхтаваў новы сынгл. Відаць, нарэшце зьявіцца сапраўдная альтэрнатыва даўно знаёмым беларускім рок-гуртам. Квіткі па 700 тыс.

## Француская клясыка

Часам нават зьдзіўляешся, гледзячы на тое, як французы шчыруюць дзеля пашырэньня ведаў пра сваю краіну. Вось і цяпер яны ладзяць франка-беларускія музычныя сустрэчы ў Залі камэрнай музыкі Філярмоніі. **14 сьнежня там граюць Жэром Пэрно (віялянчэль) і Жэром Дзюкро (фартэп'яна). А 16-га беларусы Кастусь Міхальскі (контратэнар) ды Сяргей Сьмірноў (фартэп'яна)** выканаюць творы францускай вакальнай музыкі.

## "Мяў" па-беларуску

Што адбываецца, калі разам зьбіраюцца дзьве сотні котак трыццацёх пародаў? Конкурс **"Лепшая котка Беларусі-99".** Ён пройдзе 19 сьнежня ў Менскім палацы моладзі. А 18-й — узнагароджаньне найпрыгажэйшай беларускай коткі. Яе вызначаць экспэрты міжнародная клясы з Італіі ды Беларусі. Ужо яны дык маюць рацыю.

## "Амэрыканка"

Не пужайцеся: мы не спрабуем давесьці, што на гэтым тыдні варта быць у аднайменнай менскай турме. "Амэрыканка" — гэта спосаб гульні ў більярд. Насамрэч, більярд — гэта найперш спорт, а ўжо толькі потым — улюбёная забаўка мафіёзі. Штодзень з 15 да 18 сьнежня аб 11-й у менскім більярдна-спартовым цэнтры "Піраміда" (Чарнышэўскага, 10а) пачынаюцца **гульні чэмпіянату вышэйшай лігі Беларусі па більярдным спорце.** Фінал адбудзецца 19 сьнежня а 16-й у клюбе "Рэактар". Заўважце: пасачыць за гульнёй прафэсіяналаў такой высокай клясы ў нашай краіне можна нячаста.

## Мода без нафталіну

Менавіта яе прэзэнтуюць 17 сьнежня **на фэстывалі авангарднай моды і пэрфомансу Christmas Panic Show** (шоў каляднае панікі). Вядучыя мадэльеры-авангардысты Менску паказваюць свае наймоўшыя калекцыі.

## "Калосьсе": сёмы нумар

Пры канцы восені пабачыў сьвет сёмы нумар часопіса "Калосьсе". Прэзэнтацыі выданьня адбыліся 25 лістапада ў Полацкім унівэрсытэце — асаблівы посьпех тут выпаў на выступ кобрынца Сідарука, які прачытаў студэнтам свае апошнія апавяданьні — і 27 лістапада ў полацкай гарадзкой бібліятэцы. На Полаччыну прыехалі Ўладзімер Арлоў, Анатоль Сыс і Вітаўт Чаропка, першая кніга фантасмагарычнага раману якога "Поўны керкешоз" якраз надрукаваная ў сёмым "Калосьсі". "Цьвіком" вечарыны стаўся выступ Анатоля Сыса. На жаль, у полацкіх прэзэнтацыях ня мог браць удзел Вінцэсь Мудроў — "галоўны альбанавед" Беларусі быў запрошаны на дыпляматычны прыём у альбанскую амбасаду ў Маскве з нагоды Дня незалежнасьці. Наступная прэзэнтацыя сёмага "Калосься" адбудзецца **14 сьнежня ў Менску ў Беларускім калегіюме пры ўдзеле Алеся Аркуша, Уладзімера Арлова, Вінцэся Мудрова, Вітаўта Чаропкі, Юр'я Гуменюка, Лявона Вашка, Сяргея Кавалёва, Ганны Кісьліцынай.** "Калосьсе", дарэчы, цяпер можна чытаць у Інтэрнэце.

Http://kalossie.freeserves.com.

Васіль Кроква




Кася Камоцкая і НОВАЕ НЕБА

прэзэнтуюць альбом

"ЦЭПЕЛІНЫ"

ў клюбе "Акварыюм" 16 сьнежня а 19 гадзіне

Хадзем разам!

НН

Усё, што Вы хочаце ведаць пра эканоміку, заканадаўства, кан'юнктуру і кошты, у штотыднёвай аналітычнай газэце

"Белорусский рынок"



Працягваецца падпіска на першае паўгодзьдзе 2000 году

ІНДЭКС 63123 ПАДПІСНЫ КОШТ

1 мес. — 400 тыс. руб.
3 мес. — 1.200 тыс. руб.
6 мес. — 2.400 тыс. руб.

ЖЫЦЬЦЁ ЖУКОЎ

Гуртам — зьніжка! Тэлефануйце!

«МЕЧ У КАМЯНІ», «БАЛТО»,«АЛІСА Ў КРАІНЕ ЦУДАЎ», «ПРЫГАЖУНЯ Ў СОННЫМ ЛЕСЕ» — мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя па-беларуску акторамі вядучых менскіх тэатраў.

«АЗБУКА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ», «ЕХАЎ КАЗАЧНІК БАЙ», «ЦІК-ТАК ХОДЗІКІ», «БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ», «СТОЙКІ АЛАВЯННЫ САЛДАЦІК + КАЛІФ-БУСЕЛ» — аўдыёкасэты з запісамі казак, калыханак, песьняў для маленькіх беларусаў.



Цяпер і ў Віцебску: Вул. Гогаля 14, крама "Сучасьнік"

Кошт відэакасэты — 1 200 тыс. руб., кошт аўдыёкасэты — 450 тыс. руб. Зьвяртайцеся на тэл.: 8 (017) 228-45-88.



Фота CIPA-Press

# ХРОНІКА СЬВЯДОМАГА ГЕНАЦЫДУ

***Большую частку расейцаў ап'яніў пах чачэнскай крыві. І толькі невялікая частка маланакладнай прэсы сваёй сумленнай пазыцыяй абараняе гонар расейскай інтэлігенцыі, пратэстуючы супраць генацыду. Гэты артыкул адмыслова для "Нашай Нівы" падрыхтавалі журналісты з маскоўскай "Новай газэты" Раман МАМЧЫЦ (Менск) і Ганна ПАЛІТКОЎСКАЯ (Інгушэція—Масква).***

Прычыны другой чачэнскай вайны — у асаблівасьцях палітычнай сытуацыі ў Расеі. Першая вайна была патрэбная перад выбарчай кампаніяй Ельцына на другі тэрмін. Гэтая вайна патрэбна для ўзьняцьця рэйтынгу прэм'ера Пуціна. Да таго ж яна дае магчымасьць генэралітэту, які прайграў аўганскую й першую чачэнскую войны, узяць рэванш і рэабілітавацца. Для ВПК вайна — шанец атрымаць грошы й замовы. Для крамлёўскіх і думскіх палітыкаў вайна патрэбная, каб адцягнуць грамадзкую ўвагу ад скандалаў, зьвязаных з карупцыяй.

Першая чачэнская вайна каштавала, па розных падліках, ад 100 да 130 тыс. жыцьцяў. Яшчэ больш за 1500 чалавек зьніклі безь вестак пры "зачыстках" і ў фільтрацыйных лягерах. Іх лёс дагэтуль невядомы. Былі цалкам зруйнаваныя ўсе гарады й буйныя сёлы Чачэніі. Аднаўленьне жытлаў Чачэнія ажыцьцяўляла без дапамогі Расеі. Аднавілі. І вось — зноў.

Вайна з падазрона невядомымі тэрарыстамі, якія арганізавалі выбухі ў Маскве, ператварылася ў новую вайну з чачэнскім народам. Калі Чачэнія — гэта Расея, дык Масква зьнішчае ўласны народ.

Прэзыдэнт Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыі Аслан Масхадаў у сваім лісьце да Папы Рымскага Яна Паўла II яшчэ 29 кастрычніка пісаў, што ад бамбаваньня і абстрэлаў загінулі 3600 чалавек, пераважна жанчыны й дзеці. Чаго варты толькі абстрэл ракетамі рынку ў Грозным і радзільнага дому, калі ахвярамі сталі больш за 150 чалавек, у тым ліку 13 немаўлятаў.

Карэспандэнтка "Новай газэты" пабывала на гэтай вайне.

..."Траса" Растоў-Баку. Нейкія людзі ў камуфляжы й без пагонаў займаюць частку інгускай тэрыторыі, ставяць міны на ўзбочыне, пасьля абцягваюць дарогу калючым дротам. Над калёнаю ўцекачоў, якія марудна цягнуцца па шашы, лунае афіцэрскі голас, запісаны на магнітафон і ўзмоцнены мэгафонам: "Ва ўсім вінаватыя цывільныя ўлады. Камандаваньне КПП заклікае захоўваць спакой... Дарога справа і зьлева замінаваная... Не дапускайце несанкцыяванага пераходу..." Танкі пэрыядычна наводзяць вежы на натоўп жанчын і дзяцей.

...Іншы дзень. Камэндант КПП "Каўказ" палкоўнік Анатоль Хрулёў закрывае пераход уцекачоў праз чачэнска-інгускую мяжу. Асноўная тэза палкоўніка, якую ён адкрыта выказвае перад натоўпам — "Я ім не дам размнажацца!" Ім — гэта чачэнцам і інгушам. Голас палкоўніка гучыць пад акампанэмэнт "градавых" удараў па Сернаводзку. А 15.10 усе прысутныя могуць назіраць, як перастаў існаваць лазьнявы корпус былога сернаводзкага курорту.

Калі пад'ехалі карэспандэнты з тэлекамэрамі, Хрулёў пасадзіў апэратараў на БТР і пры камэрах перавёз пэўную колькасьць хворых, параненых і цяжарных жанчын. Зьехалі камэры — перавоз спыніўся.

...Яшчэ адно назіраньне. Для ўцекачоў прывезьлі і паставілі 95 "лужкоўскіх вагончыкаў". Засяліць нікога не пасьпелі. Вайскоўцы спачатку занялі вагончыкі пад зімовы стан, потым сталі паціху цягнуць стульлі, калярыфэры, шафы, шчыты для будоўлі вулічных прыбіральняў.

...Цяпер у Чачэніі й Інгушэціі больш за ўсё баяцца патрапіць пад руку п'янаму альбо "ўспыханаму" салдату — гэта гамон. Гарэлку тут п'юць ужо з раніцы, асабліва кантрактнікі. Некаторыя зь іх наўмысна расстрэльвалі з вэрталётаў трасу Растоў—Баку, па якой перасоўваюцца ўцекачы, заходзячы на другое, трэцяе кола, калі бачылі, што яшчэ хтосьці варушыцца.

...Ася Астамірава, 28-гадовая жыхарка селішча Катыр-Юрт Ачхой-Мартанскага раёну, дацяпер знаходзіцца ў шоку. 16 лістапада яна павезла на хаўтуры дамоў цела свайго мужа Аслана, які сканаў у той дзень у сунжанскім шпіталі ад ранаў, атрыманых пры абстрэле. Разам зь ёю машынаю ехалі яе дзеці — 6-гадовы Асланбек і 2-гадовы Саламбек. У другой машыне — сястра нябожчыка Ася Оева, маці двох дзяцей, і два іх дзядзькі. На блок-посьце паміж Ачхой-Мартанам і Катыр-Юртам іх спынілі і, не прамовіўшы ані слова, сталі страляць па машынах. Ася разам зь дзецьмі выскачыла з машыны й залямантавала: "Ратуйце, дзеля Алаха!" Кантрактнікі з банданамі на тварах крыкнулі ёй: "Алаха няма, чачэнская б... Табе канец!" І далі па ёй чаргу. Асланбек страціў прытомнасьць. Саламбек крычаў — Ася бачыла, як гарыць машына зь целам яе мужа. Самае неймавернае — тое, што выратавалі параненых Асю й дзяцей таксама расейскія салдаты. Знайшліся ўсё ж нармальныя людзі, якія на БТРы адвезьлі іх у шпіталь.

Гэта Чачэнія. Гэта Вайна. ■

# ТАТАРСКІ НАРОД БОЛЬШЫ ЗА БЕЛАРУСКІ

***Дамова Беларусі з Расеяй спарадзіла багата нэгатыўных водгукаў у сьвеце***

**Намесьнік дзяржсакратара ЗША Джэймс Фоўлі** пад час свайго брыфінгу 8 сьнежня на запыты журналістаў, ці не паўплывае гэткі саюз на адносіны Штатаў зь Беларусяй і Расеяй і ці не зьяўляецца гэтая дамова працягам вайны ў Чачэніі, адказаў: "Я б ня стаў блытаць яблыкі з апэльсінамі. Мы ў Дзяржаўным дэпартамэнце ЗША імкнемся даць асобныя ацэнкі кожнаму пытаньню. Я толькі магу пракамэнтаваць сам факт падпісаньня гэтай саюзнай дамовы паміж Беларусяй ды Расеяй. Для пачатку адзначу, што мы не пярэчым інтэграцыйным працэсам паміж краінамі Эўропы, да тае пары, пакуль яны носяць узаемавыгадны характар і не замінаюць трансатлянтычнай інтэграцыі. Для нас асабліва істотная менавіта добраахвотнасьць характару інтэграцыяў, што магчыма толькі ў выпадку дэмакратычных працэсаў. У Беларусі ні пра якія дэмакратычныя працэсы ня можа быць і гаворкі. Гэткім чынам, няма падставаў лічыць, што гэтае пагадненьне з Расеяй ёсьць жаданьнем беларускае нацыі, і, адпаведна, актам добрае волі".

**Старшыня Сэйму Літвы, сп.Вітаўтас Ландсбэргіс** вельмі нэгатыўна ацаніў саюзную дамову, найперш з геапалітычных меркаваньняў: "Гэткі саюз становіцца выклікам і фактарам абвастрэньня міжнароднага становішча". Сп.Ландсбэргіс лічыць, што дамова йзноў ставіць перад дэмакратычным сьветам пытаньні пра законнасьць паўнамоцтваў Лукашэнкі й юрыдычную вагу падпісанае паперы. Зь іншага боку, літоўскі палітык заўважыў, што цяпер сытуацыя становіцца ясьнейшая, бо адказнасьць за становішча ў Беларусі адкрыта й шчыра бярэ на сябе Расея.

**Амэрыканскі палітоляг Чарльз Клавар** у газэце *Financial Times* піша: "Лідэры Беларусі й Расеі ўжо двойчы падпісвалі падобныя дамовы, агульныя вынікі якіх ня ўражваюць. Гэта ўжо трэцяя дамова ад 1996 г. Тым ня менш, лідэры краінаў Захаду й беларускае апазыцыі занепакоеныя, што неадназовыя спробы Лукашэнкі далучыць сваю краіну да Расеі пакрысе стануць рэальнасьцю. Па Менску пракацілася хваля пратэстаў, кульмінацыя якіх была ў кастрычніку, пад час сутычак 20 000 маніфэстантаў зь міліцыяй. Заходнія дыпляматы й палітыкі ставяць пад вялікі сумнеў сапраўдную падтрымку аб'яднаньня насельніцтвам абедзьвюх краін.

Афіцыйныя асобы ў Беларусі й Расеі кажуць, што гэты саюз больш падобны да Эўрапейскай Рады, чым да СССР. Расчараваныя немагчымасьцю ўступіць у іншыя гандлёвыя арганізацыі, найперш у ЭР, краіны СНГ хочуць падтрымліваць шчыльныя гандлёвыя дачыненьні з Масквою. Але многія экспэрты лічаць, што за эканамічную інтэграцыю Расея выставіць сваім саюзьнікам палітычны рахунак".

А вось **прэзыдэнт Украіны Леанід Кучма** выказаўся напрост, камэнтуючы саюз Масквы зь Менскам: "Мы ў гэтыя гульні гуляць ня будзем. Украіна абрала шлях незалежнасьці й дэмакратыі".

Сваё нэгатыўнае стаўленьне да саюзу з Лукашэнкам выказалі і кіраўнікі розных рэгіёнаў у самой Расеі. У інтэрвію "Інтэрфаксу" **прэзыдэнт Татарстану Мінтымэр Шаймiеў** заявіў, што Татарстан будзе дамагацца павышэньня свайго статусу да беларускага. "Татарскі народ шмат больш за беларускі. Чаму мы павінны быць ніжэйшымі?"

А **прэзыдэнт Інгушэціі Руслан Аўшаў** выказаўся яшчэ больш катэгарычна: "У мяне адмоўнае стаўленьне да гэтага саюзу. Складаецца ўражаньне, што новая дзяржава ствараецца пад канкрэтных асобаў. Дамова выклікае вельмі шмат пытаньняў. Дасёньня ніхто не ведае, які варыянт быў падпісаны. Яшчэ пытаньне: чаму трэба было гэтак сьпяшацца? Чаму не спытаць меркаваньня нашых народаў?

**Прэзыдэнт Башкартастану Рахімаў** таксама супраць гэтае дамовы. "Паўнавартаснага саюзу ўсё адно не атрымаецца, бо ані Расея, ані Беларусь не аддадуць свайго сувэрэнітэту. Ну мяркуйце самі — хто аддасьць сваю свабоду й незалежнасьць? Таму ўсё гэта выглядае сумнеўна", — заўважыў сп.Рахімаў.

На размытасьць палажэньняў дагавору зьвярнуў увагу і **кіраўнік Ханты-Мансійскае Думы сп.Сабянін**, дадаўшы, што яго трэ было б усё ж абмеркаваць усенародна. Бо, як сказаў ён: "Мы гэтак і не дазналіся талкова, што за дамова падпісаная, пра які саюз ідзе гаворка".

Тэкстаў дамовы аб гэтак званым саюзе не атрымалі й дыпляматы, што працуюць у Беларусі. Гэта, мякка кажучы, іх падзівіла. Напрыклад, **пасол Францыі Бэрнар Фас'е** сказаў: "Я нават не чытаў праекту дамовы, а таму ўсё, што тут адбываецца, нагадвае чарговую дэманстрацыю кепскага фільму".

**Аглядальнік**

# МУСУЛЬМАНЕ ПОМСЬЦЯЦЬ ЗА ХРЫСТА

***Мусульманскія радыкалы ў Лёндане абвесьцілі фэтву Тэрэнсу Макнэлі***

Паводле ісламу, фэтва — гэта адназначны сьмяротны прысуд. Абвешчаны ён за п'есу "Corpus Christi", у якой вольна трактуецца постаць Ісуса Хрыста. Ісус, які для хрысьціянаў — сын Божы, для мусульманаў лічыцца вялікім прарокам, роўным Майсею. Ісламісты тлумачаць свае дзеяньні тым, што абраза прарока Ісуса — гэта абраза ісламу. Ужо ад пачатку п'еса выклікала пратэсты хрысьціянаў, бо Хрыстосу ў творы надаюцца гомаэратычныя рысы. Цяпер жа перад тэатрам, дзе пастаўленая п'еса, разам пратэстуюць каталікі і мусульмане.

Выпадак незвычайны ня толькі дзеля таго, што на шалі пакладзенае чалавечае жыцьцё, але й таму, што Макнэлі — немусульманін, а таму ня можа разглядацца адступнікам ад веры, тады як фэтву можна абвясьціць толькі адступнікам ад ісламскага закону. Ніколі раней фэтву не абвяшчалі немусульманіну. Абвесьціў фэтву лёнданскі прадстаўнік Усамы Бін Ладэна, які не зьяўляецца ні аяталом, ні шэйхам, што таксама супярэчыць ісламскай традыцыі.

Лёндан стаў апошнім часам буйным цэнтрам ісламізму, і ідэі, што там нараджаюцца, моцна ўплываюць на ўсіх мусульманаў заходняга сьвету. Менавіта ў Лёндане ў 1989 годзе палілі пудзілы Рушдзі.

Цяперашні жэст мусульманаў — запрашэньне да супрацоўніцтва паміж ісламскімі і хрысьціянскімі фундамэнталістамі. Даўно ўжо шмат хто з хрысьціянаў наракаў, што калі б хто зрабіў з вобразам Магамэта тое, што вычвараюць мастакі з Хрыстом, то яго б даўно на сьвеце не было, і шкадаваў, што ісламскія правілы не распаўсюджваюцца на нехрысьціянскі сьвет. Між тым абаронцы Макнэлі гавораць пра свабоду сумленьня і свабоду творчасьці.

**Сяргей Радштэйн**




Фота IREX-ProMedia

# РЭПЭТЫТАРЫ — ЦЕНЯВЫЯ НАСТАЎНІКІ

***Цені зьяўляюцца там, дзе не выконваюць сваіх абавязкаў тыя, хто іх павінен выконваць. Школа ў большасьці вучыць сёньня кепска і не зусім таму, што трэба. А паколькі адукаванасьць яшчэ ў пашане, дык школьныя недавучкі (дакладней, іх бацькі) шукаюць пазашкольных настаўнікаў.***

*Працяг са старонкі 1.*

Міхась БУЛАВАЦКІ

Сёньня рэдка хто з унівэрсытэцкіх выкладчыкаў ня мае такога "левага" заробку. Слабую канкурэнцыю ім складаюць настаўнікі-пэнсіянэры, якія бяруць зусім танна: з даляр за ўрок. А рэалія сёньняшняга часу — расслаеньне школаў на прэстыжныя (ліцэі, гімназіі, школы "з ухілам") і непрэстыжныя — прывяла да зьяўленьня "кругавой парукі" настаўнікаў прэстыжных школаў.

Трапіць у ліцэй — адна справа, другая — трэба ж там "цягнуць лямку", а гэта ня ў кожнага атрымліваецца. Тады бацькі ідуць да настаўніка і прапануюць дадаткова займацца зь іх "атожылкам" за дадатковую плату. Але ж настаўніку няёмка браць грошы за працу са сваім жа вучнем (сам не навучыў, ды яшчэ й зарабляеш на гэтым!) і ён "перадае" свайго недавучку сябру-калегу з суседняй школы. У сваю чаргу той у аналягічнай сытуацыі "перадасьць" свайго вучня "на дапрацоўку" першаму. Навучаць чаму ці не, але ацэнкі стануць вышэйшымі несумненна. І хто кіне камень у гэтых настаўнікаў, якія, маючы найвышэйшую катэгорыю і паўтары стаўкі, ледзь дацягваюць у зарплаце да 30 даляраў?

Племя рэпэтытараў жыве, множыцца і працуе, што ні кажы, на карысьць дзяржаве, хоць як бы і па-за яе законамі. Дзяржава-рабаўнік і тут спрабуе адхапіць свой куш, абкладваючы прыватную пэдагагічную дзейнасьць падаткамі і ліцэнзаваньнем. Але падатковыя інспэктары ня вельмі шчыруюць на гэтай ніве, разумеючы, што шмат не ўшчыкнеш, а тое, што ўшчыкнеш, ня будзе вартым патрачаных сілаў.

Здараецца, што рэпэтытары дапамагаюць зарабляць грошы і настаўнікам, нечакана для апошніх. Адзін з вучняў, падрыхтаваны знаёмым мне рэпэтытарам да паступленьня ў ліцэй, атрымаў перамогу на абласной алімпіядзе. У анкеце, якую ён запаўняў на алімпіядзе, патрабавалася назваць установу і прозьвішча настаўніка матэматыкі. Ён і назваў настаўніцу ліцэя, якая вучыла яго толькі паўгады і да ягонага посьпеху мела даволі слабое дачыненьне. У выніку настаўніца атрымала буйны грант Фонду Сораса. І званьне: сорасаўскі настаўнік.

Мой асабісты досьвед прыватнага настаўніцтва налічвае каля двух дзясяткаў гадоў. Пачалося з падрыхтоўкі ў ВНУ дзяцей сваякоў. Паступова кола пашыралася сябрамі і знаёмымі. Грошай ня браў, бо — савецкі выхаванец! — лічыў пазадзяржаўны заробак за грэх, пакуль адзін з знаёмых, пераадолеўшы мой супраціў, сунуў грошы ў маю кішэню і аблаяў "дурашлёпам". Цяпер гэтае "хобі" ператварылася ў сталую форму заробку, што вельмі дарэчы пры цяперашнім маім беспрацоўі. Зьявіліся свае сакрэты рэпэтытарскага майстэрства. Прыстасаваўся да самых розных "замоваў", бо тут праца — вельмі індывідуальная.

Асноўную частку вучняў складаюць тыя, хто сканчае школу і зьбіраецца стаць студэнтам. Але некаторыя клапатлівыя бацькі пачынаюць хваляваца з-за першых троек сваёй дзіцяці ў 7—8 клясах (праблемы падлеткавага ўзросту) ці нават раней. І гэтая група за апошнія гады прыкметна нарастае.

— ...Вы не маглі б дапамагчы майму сыну? Ён скончыў 5-ю клясу са слабой чацьвёркай. Я баюся, што ў 6-й у яго будуць сур'ёзныя праблемы...

— ...Я скончыў ПТВ на "выдатна" і зьбіраюся паступаць у вайсковую акадэмію. Мне трэба некалькі кансультацыяў па матэматыцы...

— ...І колькі гэта каштуе?.. А чаму на беларускай мове таньней? Вы што, нацыяналіст?..

Тлумачу, што нацыяналізм тут ні пры чым. Я беларус, і апошнія 10 гадоў карыстаюся роднай мовай. На гэтай мове разважаць мне ўжо лягчэй, чым на расейскай. І падручнікі ў мяне на беларускай мове, і арыгінальныя навучальныя матэрыялы з сыстэмамі задач распрацаваныя на беларускай мове. Для працы на расейскай мове іх прыйдзецца перакладаць...

Нягледзячы на даволі істотную розьніцу ў аплаце, пераважная большасьць выбірае ўсё ж звыклую расейскую мову. Беларускую абіраюць або сьвядомыя беларусы, або тыя, для каго поўная аплата досыць праблематычная. Пасьля пары заняткаў, калі чалавек прывыкне да беларускамоўнай тэрміналёгіі, "раптам" высьвятляецца, што ніякіх цяжкасьцяў беларуская мова не стварае. І чалавек у выніку аказваецца ў выйгрышы.

Дарэчы, беларускую мову абраў і той кандыдат у афіцэры. Калі ён пасьпяхова паступіў, я пацікавіўся, ці не перашкаджала яму мова. "А чаму яна павінна перашкаджаць? — зьдзівіўся той майму пытаньню. — Я ж і расейскую ведаю".

— ...Я ня ведаю, што мне рабіць! — даносіць тэлефон усхваляваны голас. — У майго сына тройка па матэматыцы! Ён ня хоча хадзіць у школу. Можа, вы як дапаможаце?

— У якой клясе сын?

— У другой.

— У якой?

З такім малым мне працаваць не даводзілася. Што ж, навучыць чалавека табліцы множаньня — зусім не праблема. Але справа тут не ў табліцы множаньня. Карані такіх праблемаў трэба шукаць значна глыбей. На шчасьце, у гэтым выпадку хапіла размовы з настаўніцай.

— ...Мне ня важна, будзе дачка ведаць матэматыку ці ня будзе. Яна ёй не спатрэбіцца. Але мне трэба, каб у яе была чацьвёрка.

Вось такая замова: хай ня ведае, але чацьвёрку мае. Як ня дзіўна, гэта магчыма. Не, не за "магарыч" настаўніцы. Проста — растлумачваць дзяўчыне тэму на дзень наперад. Тое, што назаўтра стане тлумачыць настаўніца, будзе ёй ужо знаёма. Адказваючы на простыя пытаньні па новай тэме (а складаных на пачатку тэмы не задаюць) і рашаючы элемэнтарныя задачкі, яна створыць добрае ўражаньне, якое адлюструецца ў журнале адпаведнай ацэнкай. Затым яшчэ крыху натрэніраваць да кантрольнай работы, пасьля чаго можна... забыць. Уважлівага настаўніка так не абдурыш, але колькі іх — дасьведчаных і ўважлівых!..

Дзяўчыны хапіла толькі на адну чвэрць. Усё ж нават на такую чацьвёрку працаваць трэба. А калі няма жаданьня, дык такая праца вельмі нудотная.

Але гэты выпадак выключны. Да рэпэтытара ідуць найперш па веды. Посьпех тут дасягаецца тым больш, чым паўней супадаюць жаданьне бацькоў і памкненьні дзіцяці. Бо ўрэшце ўсё залежыць ад працаздольнасьці вучня, падмацаванай сфармаванымі планамі на будучыню і верай у сябе.

У праграме вывучэньня матэматыкі ў школе ёсьць два небясьпечныя моманты. Першы — пераход у 7-й клясе да сыстэматызаванай матэматыкі (асабліва да геамэтрыі), дзе патрабуецца больш высокі ўзровень разумовай дзейнасьці. Другі — пераход у 10-й клясе да стэрэамэтрыі і пачаткаў матэматычнага аналізу. Менавіта гэтыя два моманты патрабуюць найбольш пільнай увагі, а трывогу зазвычай пачынаюць біць на выхадзе з школы, у 9-й ці 11-й клясе.

— ...Я не разабраўся з раўнаньнем, яе рашалі на ўроку.

Гляджу рашэньне ў сшытку. Прымітыўнае трыганамэтрычнае раўнаньне. У рашэньні відавочная памылка. Паказваю яе. І паказваю правільнае рашэньне. Хлопец зьдзіўлены:

— І я хацеў так рашаць!

— Чаму ж не рашаў?

— Але ж гэта рашэньне настаўніцы, я з дошкі сьпісваў.

— Здараецца, што і настаўнікі памыляюцца. Чаму ж не запытаўся? Разам разабраліся б.

— Ага, я запытаўся...

— Ну і што?

— Яна пачала крычаць: "Калі адказваць на ўсе вашыя пытаньні, дык мне некалі будзе новую тэму тлумачыць! Мы і так са спазьненьнем ідзем!.."

— Спытаўся б на перапынку. Тут жа дробязь на хвілінку.

— На перапынку яе ня злавіш. Толькі званок, яна хапае заданьне задасьць, журнал пад паху і пайшла.

— Можа, ты памыліўся, перапісваючы? — усё яшчэ спрабую я неяк абараніць настаўніцу.

— Не. Так ува ўсіх. — І ён паказвае мне сшытак, пазычаны ў суседа па парце. — У нас у клясе ніхто не разумее, таму й ня вучаць.

Такая вось журботная карціна. Настаўніца мае першую катэгорыю і лічыцца адной зь лепшых у школе. Дырэктар неаднаразова адзначаў яе выканальнасьць. Гэтаму дырэктару, мабыць, толькі выканальнасьць і патрэбная. Школа ў рабочым мікрараёне, народ там у большасьці абыякавы да навучальных посьпехаў сваіх дзяцей: "абы вайны не было!"

Рэпэтытар працуе нярэдка на завугольлі школы. Яму шмат чаго бачна з таго, што школы імкнуцца хаваць. З гэтых назіраньняў нарадзілася ідэя стварэньня камітэту абароны навучэнцаў ад няўдалых настаўнікаў. Канцавой мэтай такой арганізацыі было б вяртаньне да нормы XVI—XVIII ст., калі бацькі (дакладней, рада брацтва, пры якім адкрывалася школа) самі падбіралі настаўнікаў для сваіх дзяцей. Але пра гэта можна весьці асобную размову. ■



*Падарожнікі. Сяргей Рымашэўскі*


## КНІЖКІ — ПОШТАЙ

1. **Веткаўскі музэй народнай творчасьці**
2. Л.Васюковіч, М.Яленскі. **Мэтодыка выкладаньня беларускай мовы ў сярэдняй школе**
3. А.Вініцкі. **Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне**
4. В.Адамчык. **Разьвітальная аповесьць**
5. В.Целеш. **Гарады Беларусі на старых паштоўках**
6. **Дапаможнік для журналістаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы**
7. А.Дэні. **Гісторыя эканамічнай думкі**
8. З.Дудзюк. **Палоньнікі жыцьця**
9. **Беларускі народны соньнік**
10. Г.Бялоўскі. **Тэхнічныя сродкі навучаньня і мэтодыка іх прымяненьня**
11. В.Рагуля. **Успаміны**
12. У.Касько. **Сьвятло далёкай зоркі**
13. У.Неўдах. **Беларуская арганная культура ў кантэксьце эўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу**
14. Е.Мерачыцкі. **Сьветлым ценем Адама Міцкевіча**
15. **Літаратурная Гарадзеншчына**
16. **Новы Запавет. Псалтыр**
17. А.Пушкін. **Выбраныя творы**
18. І.Саверчанка. **Кніжна-пісьмовая культура Беларусі**
19. Т.Процька. **Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну**
20. У.Ліпскі. **Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод**
21. **Шасьцімоўны слоўнік**
22. М.Чарняўскі. **Правадыр крылатых вершнікаў**
23. Янка Запруднік. **Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях**
24. Янка Купала. **Поўны збор твораў. Т. 5: Вершы, пераклады 1930-1942**
25. Я.Найдзюк, І.Касяк. **Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі**
26. М.Ермаловіч. **Старажытная Беларусь. Віленскі пэрыяд**
27. С.Станкевіч. **Русіфікацыя беларускай мовы ў БССР**
28. Я.Станкевіч. **Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак**
29. Бордович А., Гируцкий А., Чернышова Л. **Сопоставительный курс русского и белорусского языков**
30. Франц Кушаль. **Спробы стварэньня беларускага войска**
31. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 5. Сшытак 2(9)
32. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 5. Сшытак 1(8)
33. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 4. Сшытак 1-2 (6-7)
34. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 2. Сшытак 2
35. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 3. Сшытак 1
36. П.Брунэль, К.Пішуа, А.-М.Русо. **Што такое параўнальнае літаратуразнаўства?**
37. **Фрагмэнты філязофіі, культуралёгіі, літаратуры.** (Вясна-98)
38. І.Бабкоў. **Герой вайны за празрыстасьць**
39. В.Акудовіч. **Мяне няма**
40. Ю.Барысевіч. **Цела і тэкст**
41. **Кастусь Каліноўскі** ("Беларускі кнігазбор")
42. **Ян Баршчэўскі** ("Беларускі кнігазбор")
43. Часопіс ***ARCHE***, нумары "Вялікая айчынная вайна", "Паталёгіі грамадзтва"
44. Л.Геніюш. **Вершы**
45. Ж.-Б.Дзюрасэль. **Эўропа з 1815 году да нашых дзён**
46. А.Каўка. **Будам жыць!**
47. **Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі** (Каталёг)
48. М.Сьцюарт. **Людвіг і зорны конь: Казкі для дзяцей.** (Пер. з ангельскай)
49. А.Лукашук. **Філістовіч: Вяртаньне нацыяналіста**
50. С.Дубавец. **Русская книга**
51. Л.Юрэвіч. **Камэнтары**
52. В.Супрун. **Жыць для Беларусі**
53. Б.М.Фэйган. **Уводзіны ў археалёгію**
54. **Дэмакратычная апазыцыя Беларусі**

**Для допісаў: 220005, Менск, а/с 13.**
*У лістах пазначце кнігі, якія Вы замаўляеце. За кнігі і іх перасылку заплоціце пры атрыманьні.*
**Менчукі! Зьвяртайцеся па тэл.: 228-45-88, факс: 228-45-87.**
*Каталёг можна атрымаць, патэлефанаваўшы ці напісаўшы.*





Фота Зянона Пазьняка

# ПРАВІНЦЫЯ І АРАРАТ

Гэтым сьнежаньскім днём добра апынуцца дзе-небудзь у вёсцы або ў старой Вільні, дзе аднолькава пахне марозам і дымком з комінаў над хатамі ці мураванкамі, каб перажыць адчуваньне вечнасьці ды роднасьці сваe зямлі. Людзі, будынкі, ляндшафт і паветра ўтвараюць арганічную сытуацыю і даюць знаёмае зь дзяцінства адчуваньне дому. Падобную гармонію можна знайсьці і дзе-небудзь у Парыжы, толькі ў нашай вёсцы або ў старой Вільні дадаецца тое, што часткай сытуацыі ёсьць ты сам. Альбо гэта яна — частка цябе.

Каторы раз мы з калегамі шукаем гэтага адчуваньня, гэтага кантэксту ў Менску. Але ў Менску яго не ўдаецца прыпыніць, бо яно, ледзьве абазначанае, зараз жа сплывае ў нікуды. І мы зноў пачынаем на тым месцы, але ўжо з новага матэрыялу, выбудоўваць сваё пачуцьцё далучанасьці, якое зноў не затрымаецца і зноў прападзе разам зь ветрам. Нельга сказаць, што горад існуе зусім без духоўнага кантэксту. Але асобныя фрагмэнты гэтага кантэксту не зьбіраюцца ў цэлае і не фіксуюцца нават у межах аднаго пакаленьня.

Папулярная калісь сярод менскай літаратурна-артыстычнай багемы кавярня "Мутнае вока" мясьцілася на першым паверсе былога архіярэйскага дому, ператворанага ў Дом мастацтва. Гэты будынак кожны бачыў — ён стаіць каля Дому афіцэраў фасадам на праспэкт Скарыны і нагадвае малюнак на вялікай чакалядцы. Напэўна, пра "Мутнае вока" можна было б сабраць тоўстую кнігу ўспамінаў, і няма сумневу, што кніга тая стала б бэстсэлерам.

У нядаўнім нумары часопіса "Полымя" надрукаваныя "Парнаскія бываліцы" пісьменьніка Аляксея Гардзіцкага. Аўтар вымалёўвае свой шэраг для "Мутнага вока":

"Любяць пісьменьнікі даваць свае назвы месцам, дзе звычайна зьбіраюцца гуртам. Як толькі адкрылі ў Доме мастацтваў кавярню, дык яе назвалі "Мутнае вока", а кавярня пад шпілем, дзе было цемнавата і з аднаго боку вуліцы знаходзілася кіраўніцтва радыёкамітэту, а з другога — вайсковы штаб, займела трагічную назву "Чорныя скалы". Піўны бар у былой фабрыцы-кухні ахрысьцілі гучна — заля Чайкоўскага, бо там добрая акустыка і можна было прадэманстраваць свае галасавыя магчымасьці. А буфэт, што месьціўся на першым паверсе гасьцініцы "Мінск", куды прабрацца можна было толькі праз пяты паверх, празвалі "Кішэняй".

У іншых гарадах сьвету — у той жа Вільні, скажам, ці Празе — народныя мянушкі паступова перабіраліся на шыльды крамаў ды кавярняў і рабіліся іхнымі афіцыйнымі назвамі. Прычым наступнае пакаленьне назву не зьмяняла, нават калі губляліся ў мінуўшчыне легенды паходжаньня тых найменьняў. Як людзкія прозьвішчы паўставалі зь мянушак, так і розныя гарадзкія назвы публічных месцаў. Гэтак у згодзе стваралася своеасаблівае для кожнага гораду духоўнае асяродзьдзе: людзі, будынкі і шыльды. У Менску ж такой пераемнасьці не існавала. Бо сам Менск не сябраваў з уласнай гісторыяй. Кожнае новае пакаленьне мусіла прыдумляць новыя найменьні, а плён фантазіі папярэднікаў назаўсёды зьнікаў у нябыце. Гэтаксама здарылася і з "Мутным вокам". Бо няма, на жаль, сумневу, што шыльду з такой назвай мы ўжо ніколі не пабачым на епархіяльным будынку.

Хацелася б зразумець, як гэты пазыў да самазьнішчальнага абнаўленьня ўзьнікае і ад чаго ён залежыць. Ці прычынаю тут палітычная ўлада ці нейкая больш глыбокая ўнутраная наканаванасьць, якая сядзіць у сутнасьці гораду.

Найбольш зразумелы, як на сёньня, адказ — у неадпаведнасьці гораду ягонаму статусу. Яшчэ Сыракомля ў мінулым стагодзьдзі казаў пра тыя самыя разбуральныя тэндэнцыі. Выходзіць, і тады Менск не дацягваў да статусу губэрнскага цэнтру, якім намінальна быў. У параўнаньні з Магілёвам або Віцебскам Менск відавочна прайграваў гэты статус. Ня тога, скажам так, духоўнага аб'ёму горад. Падзелены паміж польскім, жыдоўскім і расейскім культурнымі кантэкстамі, як зрэшты і ўсе нашыя на той час гарады, Менск, у адрозьненьне ад іншых, у кожным гэтым кантэксьце заставаўся павятовым цэнтрам, ня болей. Ён як бы распадаўся на гэтыя кантэксты, не ствараючы адзінага, буйнога. Паглядзіце на польскамоўныя асяродкі, дзе сустракаліся Манюшка і Дунін-Марцінкевіч і, скажам, на дзясяткі сынагогаў, дзе зусім асобна праводзіла час зусім іншая публіка, урэшце, уявіце сабе афіцыйны быт расейскага чынавенства — таксама замкнёнага ад астатніх. Паміж гэтымі пластамі няма ўзаемапранікненьня, гэта як бы зусім розныя гарады. І вось ужо абсалютна іншая сытуацыя — горад, у якім выходзіць "Мінскі лісток" з дэбютным Купалавым вершам. У сваю чаргу — нічога агульнага зь Менскам, апісаным у Купалавых "Тутэйшых".

З усяго сказанага напрошваецца выснова. Менск не натхняе беларусаў да нацыянальнага жыцьця і не выхоўвае іх пакаленьне за пакаленьнем у пераемнасьці і любові да сваіх старых камянёў. Менск трэба дасьледаваць і вывучаць, заўсёды ў сьпешцы фіксуючы тое, чаго заўтра ня стане назаўсёды. Гэтак, як археолягі ў сьпешцы вывучалі замчышча перад наступам мэтро, або як Зянон Пазьняк раскопваў дамініканскі касьцёл, на месцы якога ўжо рабілі разьметку будаўнікі Палаца рэспублікі. Менск трэба фіксаваць, але ня трэба ўскладаць на яго надзею як на духоўную панацэю, якая раптам азорыць нас, неразумных беларусаў, цывілізаванаю думкай. Так ніколі не было і, мабыць, ня будзе. І зацыкленасьць на Менску, ад якога мы чагосьці чакаем, — гэта якраз адна з формаў нашага нацыянальнага і культурнага застою. Варта проста выехаць у беларускую правінцыю, каб зразумець, што наша сапраўдная сталіца духу разьлітая па ўсім целе краіны, тады як правінцыя — наадварот — сфакусаваная ў адной кропцы, у Менску.

У адным з папярэдніх нумароў я распавядаў пра Вільню, апісаную Ўладзімерам Жылкам, якая мусіць сьвяціць беларусам сваім прыцягальным сьвятлом. Як мара і як стымул для нацыі — жыць. Пасьля тых нататак адзін мой калега параўнаў Вільню, старую беларускую сталіцу, а сёньня сталіцу Літвы, з гарой Арарат, духоўным арыенцірам армян, які стаіць за армянскай мяжою, але з Арменіі відзён. Гэтак і Вільня зь Беларусі — відна.

**Сяргей Паўлоўскі**



Фота Джона Бато

# "МУТНАЕ ВОКА"

Зьміцер БАРТОСІК

Мінулаю вясною я меў гонар у кампаніі літаратараў, чые імёны й творы вывучаюцца ў школе, зьезьдзіць на Полаччыну. З прапагандаю, так бы мовіць, сярод беларусаў роднага слова. У халодным гатэлі засьнежанага Наваполацку, у кампаініі з Рыгорам Барадуліным, я не ўстрымаўся, каб не запытацца ў маэстра, а ці ня ён прыдумаў легендарную назву на нефармальнай мапе яшчэ савецкага Менску — "Мутнае вока".

**Рыгор Барадулін:**

*"Ды не, мы яе разам прыдумалі. Можа я, можа ня я. "Мутнае вока"... Гэта цэлая гісторыя беларускага і тэатру, і літаратуры, і наогул культуры. Праз "Мутнае вока" прайшла цэлая армія актораў, паэтаў, празаікаў, філёзафаў, прафэсараў, так сказаць. Усіх не зьбярэш. Бо гэта было адзінае месца, дзе пахла нейкай незалежнасьцю. Ну, нефармальна, таму што мікрафоны стаялі пад кожным столікам. Але можна было нешта гаварыць, і ўзьнікала ўражаньне вольнай багемы. Што ў нас ледзь не Манмартар.*

*Будынак гэты, так званы "архіярэйскі дом", некалі царкоўна-археалягічны музэй, узьвялі ў трынаццатым годзе ў гонар трохсотых угодкаў Дому Раманавых. (Тады ж, па-мойму, былі ўзьведзеныя, з уцалелых на сёньня, лякарня супраць помніка Багдановічу ды інфэкцыйная лякарня на Крапоткіна, дзе я меў гонар ляжаць.)*

*А ў наш час было: "Актёры первые едят, в меню мечтательно глядят. О, бедный архирейский дом. Я узнаю тебя с трудом".*

*Зразумела, "Мутнае вока" не магло быць без Караткевіча. Я памятаю, быў нейкі вечар, мы прынесьлі з сабою нешта выпіць і ў буфэце яшчэ бралі. І Чарнабаеў Віктар Максімавіч нешта засьпяваў. І тут, канечне, Караткевіч не ўцярпеў. Як гэта яго нехта пераб'е! Наагул, Уладзімер не цярпеў канкурэнцыі ні ў чым. Ні ў мастацтве, ні ў выпіўцы. Ну, само сабою зразумела, што ў прыгожым пісьменстве яму роўных не было. І вось, Валодзя тут экспромтам сваім магутным голасам пачаў сьпяваць: "Багаты чалавек каня запражэ ды й выедзе-е-е. А бедны чалавек жонку пакладзе ды й выебе-е-е. Радуйся, сарока, радуйся, варона. Радуйся й ты, верабей цудатворца-а-а!"*

*Чарнабаеў ашалеў. Там усе ашалелі. Таму, што ў архіярэйскім, так званым, доме, і такі царкоўны хваласьпеў, і з такім тэкстам! На гэта быў здольны толькі Караткевіч".*

Неяк ноччу, вяртаючыся з чарговых гасьцей, я йшоў праз Цэнтральны сквэр у надзеі пасьпець на апошні цягнік мэтро. Горад ужо заціхнуў, каб заснуць. Ніводнага чалавека ў цёмным сквэры, рэдкія машыны на праспэкце, суворая грамада Дому афіцэраў і... я нават спыніўся ў нерашучасьці... слабое, ледзь заўважнае сьвятло з вокнаў даўно закінутага архіярэйскага дому. Разумеючы, што яшчэ хвіліна, і мне прыйдзецца дабірацца пешкі, я без ваганьняў збочыў у цёмныя задворкі. На прывіднае сьвятло зь нежывых зарашэчаных вокнаў.

Я ведаў, што ў гэтых, нейкім цудам не разбураных вайною і саветамі, мурах некалі быў музэй, пасьля тут гучалі галасы ўрадоўцаў БНР. Але й па сёньня сярод менскай багемы гэты адрас застаецца вядомым як "Мутнае вока". Хоць ужо колькі гадоў дзьверы былога Дому мастацтва не адчыняліся для ягоных заўсёднікаў. І раптам гэтае нерэальнае сьвячэньне сярод восеньскае начы...

Сакрэт жоўтага сьвятла быў да крыўднага простым. Скрозь пыльную шыбу я ўбачыў голыя абадраныя сьцены вялікага пустога пакою, асьветленага наскрозь люмінісцэнтным сьвятлом вулічнага ліхтара праз вокны фасаду. Два казённыя фатэлі ля супрацьлеглай сьцяны, пакінутыя ці забытыя тут невядома калі, толькі падкрэсьлівалі халодную няўтульную пустату некалі вельмі жывога адрасу. Як мог, я напружваў фантазію, намагаючыся ажывіць мёртвы дом гукамі нястройнага фарэпіяна, гучнымі тостамі, звонам посуду ды тлумам цыгарэтнага дыму. Нічога не атрымлівалася. Станавілася яшчэ больш халодна і няўтульна. Я зразумеў, што незваротна спазьніўся...

**Рыгор Барадулін:**

*"Я памятаю яшчэ, як у "Мутным воку" быў нейкі чарговы бэнэфіс Мележа, самага самазаканага пісьменьніка Беларусі. І вось, калі ён выходзіў, на шляху яму сустрэўся Міхась Стральцоў пад добрай мухай. І Мішу дужа не спадабаліся надта наваксаваныя Мележавы туфлі. Свае адносіны да клясыка Стральцоў выказаў тым, што, ня кажучы ні слова, стаў сваімі нячышчанымі ботамі заціраць нашмараваныя туфлі героя дня. Быў страшны скандал. Стральцоў, які невядома дзе начаваў, і Іван Паўлавіч — кадравы работнік ЦК...*

*Самым сталым кліентам і завідольцам "Мутнага вока" быў Вялюгін. У Вялюгіна былі два апорныя рэстараны. Гэта рэстаран "Беларусь", дзе ў яго быў знаёмы афіцыянт — разьведчык былы, канечне кагэбіст, само сабой. А калі ўжо яму не хапала, ён тады ішоў у "Мутнае вока". А ён жыў насупраць цырка, у доме, які звалі "залаты фонд гаркома партыі". У "Мутным воку" ён даходзіў да кандыцыі, мог заснуць. Тады званілі жонцы. Жонка забірала, вяла. Ну а пасьля ўжо раніцай назаўтра ці жонка, ці хто, ці мне было даручэньне занесьці п'яныя даўгі.*

*З "Мутнага вока" аднойчы выйшаў ноччу Раман Філіпаў. Выдатнейшы актор, расеец сам, зь Ніжняга Ноўгарада, але ён так вывучыў беларускую мову, што гаварыў лепш, чым многія нашы... І вось Раман Філіпаў, гэтая махіна, узьлез на трыбуну, зь якой урад тады вітаў па сваіх сьвятах шэсьці. Стаў на гэтай трыбуне і сваім магутнейшым голасам... ці кавалак з "Майн кампфу" прачытаў, ці ўрывак зь нейкай прамовы Гітлера. Прычым голасам фюрэра. Ну гэта быў скандал страшны. І гэты выступ быў адной з прычынаў ягонага вяртаньня ў Маскву.*

*Шмат чаго было там вясёлага. У "Мутным воку". Зараз усё і не згадаеш."*

Я ішоў дадому начным праспэктам і думаў наконт праўдзівасьці адной высновы. "Усё адбылося так, як павінна было адбыцца. Таму ўсё, што намі страчана ўчора, сёньня ня мела шанцаў на жыцьцё". Выходзіць, ня варта плакаць па Менску зь Нямігай і Ратушай. А тым больш сумаваць па замкнёных дзьвярах "Мутнага вока", якія ніколі ўжо не адчыняцца для вясёлых блюзьнераў. Будынак аддалі праваслаўнай япархіі... Шмат чаго яшчэ пасьпее забыцца, зьнікнуць і адрадзіцца наноў. Але, здаецца мне, жыцьцё гэтай вясёлай назвы ня скончылася з закрыцьцём Дому актора. "Мутнае вока" ажыве новымі героямі, новымі гісторыямі і скандаламі. Хай сабе і ў новым, пакуль яшчэ нікому невядомым месцы. ■

## Тацяна Барысава

***

Моцная кава
бяз цукру,
а на падлозе сьнег.
Ведаеш,
больш я ня буду
слухаць твой
дзёрзкі сьмех.
Пылам забруджаны ружы,
горкія словы
на смак.
Быў ты
калісьці любы.
Зараз жа –
проста так.
Вынішчыць змог
каханьне,
сэрца аддаў мане.
Хай жа
маё сьвітаньне
станецца безь цябе.
Больш не гукай
дарэмна
і не кажы: «Прабач».
Восені каралеўна,
я захінуся
ў плашч.

## Сьвятлана Верас

ТАКСАМА ВЫЙСЬЦЕ

Нас паілі з маленства атрутай.
Мы хварэем на вольным ветры,
Мы баімся сьвятла, як пакуты,
Мы хаваемся ў багну і нетры.

Нам ня хочацца белага хлеба,
Нам за гонар акраец чорны.
Нам разумных парадаў ня трэба –
Мы дурноце прывычнай пакорныя.

Нам агідны рашучыя крокі,
«Абы ціха» – адвечны лёзунг.
Пагарджаныя нашы прарокі
Горка льюць бясьсільныя сьлёзы.

Толькі той адшукае збавеньне,
Стане зноўку самім сабою,
Хто адкрые ўласныя вены,
Каб сплыла атрута з крывёю.

## Юрась Жалезка

***

Некалькі маладых дзецюкоў,
Выкладчыкаў філязофіі
Менскага ўнівэрсытэту,
Узялі чарговы адпачынак,
Каб зноўку правесьці яго ў гарах.
Гэта быў семітысячнік.
Яны ўсе ўзялі вяршыню,
Але спускаючыся,
Адзін зь іх пахіснуўся
І зьляцеў у цясьніну,
І разьбіўся насьмерць...
На наступнае лета
Яны запляновалі Тыбэт,
Каб узьняцца на Джамалунгму...
А я праводжу свой адпачынак
У вёсцы,
У хаце маёй дарагой бабулі,
Я дапамагаю касіць сена
І саджаць бульбу...

***

Датуль пісаць я буду вершы,
Пакуль мне дорыць радасьць гэта,
Хоць ведаю, што мне ніколі
Ня звацца іменем паэта.

## Ігар Камікадзэ

СТАДЫІ ІНТЭГРАСТЫІ

Першым здаецца гонар,
Пасьля адступае культура,
Потым зьнікае мова,
Сьледам зьнікаем мы.

ГЕНІЯМ З КАНАПЫ

О, геніі прыватнае размовы,
Прысуд чый справядлівы і суровы –
І ўладзе, што пакуль іх не кране,
І тым, хто піша ноччу на сьцяне.
Хоць гэтыя ўра-апалягеты
На мітынгі ня ходзяць і пікеты,
Адно на кухнях паляць цыгарэты,
Нібыта тыя «сьвечачкі ў вакне».
Зарыўшыся ў культурныя пытаньні
(І ў барацьбу за прэміі і званьні),
Плююцца – дзесьці ў прыцемках душы
На тых, хто дазваляе быццам жыць
(Што часам прарываецца за кавай,
Калі з эфіру пырскае рэкляма),
Ня робячы, па сутнасьці, нічога,
Каб вышла ідэалам перамога.
Займае ж іх, відаць, найболей страўнік.
За межамі прадбачаньня, што заўтра
Пацягнуцца па стэпе і тайгою,
Пад кухталі паўп'янага канвою
Мармычучы, нібы ў вар'яцкім сьне:
«Мы ўсё маглі зьмяніць, але, але...»



"Дзядоўнік". Малюнак Веры Лабко

***

Восень...
Пара дажджоў
і рэвалюцый.
Калі да скроні прыстаўляць ружжо –
не дапаможа Канфуцый...

Восень...
Рыхтуйся,
што задрыжыць
зямля пад сотнямі ног...
Верасень – толькі пралог.

Восень...
Пара дажджоў
і рэвалюцый.
Глядзі – будзе позна зьдзіўляцца:
«Ужо?!»
і ўвасабляцца ў малюска.

Восень...
Не давярай
роўнаму шуму вуліц.
Проста спусьцелых страўнікаў брэх
яшчэ ня ўсе тут пачулі.
Дождж прыглушае крокі.

...Верасень – толькі пралог.

ТРАКТАР НА ПРАСПЭКЦЕ

Што гэта за грукат,
Што гэта за ляскат?
Па праспэкце рушыць
Прэзыдэнцкі трактар.

Едзе пад аховай
Асабістай варты.
Ты не пасьміхайся,
Гэта ўсё ня жарты.

За рулём – «абраны
Намі ўсенародна»,
Скаліць зубы паннам,
Ну такі лагодны!

Пад лінялай майкай –
Бронекамізэлька,
Пад рукою – шайба
З клюшкаю хакейнай.

Ды ня будзе вечна
Ён спраўляць «Дажынкі»,
Хутка ўжо пачуе:
«Гэць у Шклоў да жынкі!»

## Алесь Кветка

***

Вольнасьць! Вольнасьць! –
Сьняжынкі ў вышынях гамоняць.
Вольнасьць. Вольнасьць...
Сьняжынкі зямелька пагоніць.

Разьняволеньне ў сьвеце мрояў,
Панаваньне ў цемры спакою,
Сутыкаецца праўда з падманам,
Але выбар свабодны я маю.

***

Калі цемрыла розум самота
І хістала цені навокал,
Калі болем палоніла роспач
І зьнікала сьцяжыначка побач;
Калі памяць, сьляпая ў блуканьні,
На спрадвечнае лёсаў пытаньне
Намагалася выйсьце пазначыць,
Не дазволіўшы сьвет свой зыначыць;
Калі родны зямелькі абшары
Прытуліць не маглі – а чакалі,
Калі роднае песенькі слова
Таямнічай лунала замовай, –
Нараджэньня другога пачатак
Атрымаў твой паўсталы нашчадак.

## Вольга Коваль

***

Я аддам табе сваё сэрца,
Разам з сэрцам аддам жыцьцё.
Толькі мне патрэбна сагрэцца,
Бо ўсё, тут усё тваё.

Падзялюся я шчасьцем і горам,
Падзялюся з адным, ты бяры,
І хоць шчасьце ня можа быць поўным,
Але й гора зьнікае заўжды.

## Анатоль Кругавец

***

*А.Пісьмянкову*

Вершык гэты напішу
Надакучлівым харэем.
Мы хварэем,
Мы хварэем,
Мы хварэем
На душу.

Вершык гэты раскажу
Бацьку,
Маці,
Бабе,
Дзеду.
І паеду,
І паеду,
І паеду
За мяжу.

Вершык гэты кіну ў печ,
Можа некага сагрэе
Тым харэем,
Тым харэем,
Тым харэем
Насамрэч.

## Лана

***

Разьвітвацца я з Вамі не хачу,
Бо доўжацца сустрэчы нашы ў снах,
Дзе прагна Вы цалуеце мяне
І носіце зь пяшчотай на руках.

## Нацыяналіст

ЗАЛІВАЕ

Чуеце, як залівае
морам хлусьні «салавей»,
як ён умела рыдае,
як ён «любіць людзей».

Чуеце, ён за свабоду,
ён і за мову гарой,
выпладак цёмнага роду,
дзіва Эўропы старой.

Чуеце, як ён сакоча,
як ён гундзіць у дуду,
як ён сабачкам вуркоча,
ці як стары какаду.

Чуеце, як прафэсійна
цёхае «птушка вясны»,
як яна пне да Расеі,
нібы габрэй да шыксы.

Чуеце, гэта стварэньне
вас палівае маной,
слоўцамі пра замірэньне,
сельгасработы і гной.

Чуем і бачым, і пальцы
рэзка сабраўшы ў кулак,
мы папярэджваем мальца:
згінь-прападзі, як сьлізьняк!

***

Пайшлі дажджы, а Толя* ўсё ня піша,
хоць біўся ў грудзі, што пачне пісаць.
Суб'екты ў чорным вызваляюць нішы,
што азначае: хутка будуць браць.

Бяруць «зайцоў» у транспарце наземным,
тралейбусы штурмуюць, як рэйхстаг,
уцёк і не вяртаецца наш Зэня,
і толькі цені, цені на платах...

** Паэт Анатоль Сыс*

## Вадзянік Няміскі

***

Вясна. На мітынг клічуць зноў,
І побач з донкіхотамі,
Ідзем пад позірк песьняроў,
вядомыя сэксотамі.

Спыняе сьветлафор наш рух.
Такі ўжо лёс гаротнікаў:
Ніяк ня вырасьце наш Рух
З тых караценькіх споднікаў.

Карцінка, аж займае дух!
Калёнамі паходнымі
Нас заганяюць у катух,
А мы ідзем па ходніках.

Адно нам трэба выбраць з двух
Ды вырашыць: ці здольны мы?
Ці ёсьць у нас вызвольны рух,
Ці толькі група школьнікаў?

Ці кормім незалежны друк?
Ці пры ўладзе гейшамі?
Як той казаў, Зянон мне друг,
Ды праўда даражэйшая.

Ад Коласа ідзе народ,
Сьцяжынкай крочыць коўзкаю.
Даўно пара наадварот –
Пачаць ад Каліноўскага.

Калі ад Кастуся пачнем
З упэўненасьцю ў голасе,
Купалы мы не абмінем,
Не абмінем і Коласа.

Даруе Багдановіч нам.
Насуперак «жалезнасьці»,
Як нас пачуе, прыйдзе сам
На плошчу Незалежнасьці.

Уцяміць трэба ціўунам
Зь іх сыценькай драпежнасьцю:
Судзіць іх, пэўна, будуць там –
На плошчы Незалежнасьці.

І каб хутчэй наблізіць час,
Што прыйдзе зь непазьбежнасьцю,
Дайсьці павінен кожны з нас
Да плошчы Незалежнасьці!

## Леанід Рыжыкаў

РАСЕІ

Прываблівай даверлівых саюзам,
Лаві на бляск парожніх абяцанак.
Вядзе байструк Краіну Беларусь
На твой, Расея, непрыбраны ганак.
Пра мёртвых толькі мёртвым не баліць,
А ты ўся ў бойках, сварках, звадзе.
Закаламуціць, каб лацьвей лавіць,
Было заўсёды прынцыпам пазадзьдзя.
І словы генэрала* – не мана
(Нашчадкі на сабе іх сэнс адчуюць):
«Россия – расчудесная страна,
В ней постоянно где-нибудь
Воюют».
Ты ад сябе, Расея, адпачні,
Няхай заціхнуць плачу адгалоскі.
Цікуе воўк – сьцяг новае Чачні,
А ўнізе –
Бел-чырвона-белыя
Палоскі.

** словы генэрала Кульнёва*

## Апанас Цыхун

ДУБ ЯНА ЧАЧОТА

*(Дуб у вёсцы Парэчча Гарадзенскага раёну, які лічыцца найстарэйшым дрэвам былой Гарадзенскай пушчы)*

Застыла пушча ў жніВеньскай красе.
Рупліва ткуць свой шлях у вырай гусі.
Парэцкі дуб купаецца ў расе,
Як волат непакорнай Беларусі.

Яго мая кранаецца рука,
А ён, нібыта зроблены са сталі.
Прайшлі стагодзьдзі ў звоне жаўрука,
Чуб перуны яму ня раз часалі.

І Ян Чачот яго лічыў сваім,
Пад ім складаў нам песьні пра Айчыну,
А волат-дуб схіляўся перад ім
І песьняру наказ даваў, як сыну.

## літаратурны сэмінар «Варштаты»

**Лане.** *«Душацца найменшыя праявы свабоды» роўна настолькі, наколькі мы дазваляем душыць. Гэта першае. Што будзе з намі — залежыць ад нас. Пры ўмове, што будзем здаровыя целам і на галаву, а Бог нам дасьць доўгія гады. І любіць, кахаць мы будзем яшчэ многа, па-рознаму і моцна.*

**Лідзе К.** *Тое, што Вы належыце да* **Вашага** *народу, праяўляецца як у Вашых размовах на кухні, гэтак і ў Вашых спробах пісаць вершы. Лепш схадзіце на «Тутэйшых» у Купалаўскі.*

**Насьце В.** *Як для «Варштатаў», дык Вашыя радкі пакуль заслабыя. Раскажыце лепей, як Вы, праўнучка Якуба Коласа, трапілі ў Ганцавічы і што там парабляеце?*

**Юрасю Ж.** *Паэзіі няма ні каліва, а «Бітлы» — гэта гадоў 40 таму назад.*

**К.Т.** *Хопіць гуляць у хованкі! Вылазьце з куфэрка, дзяцінства ўжо мінулася.*

**В.Мілкоўскаму.** *Вы пасьпяшаліся, С.Адамовіч ня мае да Вас ніякіх прэтэнзіяў.*

**Славамір Адамовіч**

# АПОШНІ ШЛЯХ АДАМА СТАНКЕВІЧА

50 гадоў таму ня стала ксяндза Адама Станкевіча. Нядаўна ў «Пагоні» я прачытаў згадку пра кс. Адама Станкевіча, які загінуў, прысуджаны бальшавікамі да 25 гадоў зьняволеньня, у сталінскім канцлягеры 29 лістапада 1949 году. «Загінуў у Тайшэце пры невядомых абставінах», — піша газэта. Аднак абставіны тыя вядомыя, бо жыве яшчэ чалавек, які хаваў вялікага беларускага патрыёта.

Віктар Сікора трапіў у тайшэцкі «Озерлаг» у 1949 годзе. Туды яго перавялі зь якуцкіх залатых капальняў. Менавіта ў Тайшэце Сікора і ўбачыў памерлага кс.Станкевіча, якога ведаў яшчэ з даваенных часоў.



Успамінае **Віктар Сікора**: «У Тайшэце быў асобы закрыты рэжымны канцлягер. Зьняволеных мелі нумары на сьпіне, нагавіцах і шапцы... Працавалі па 12 гадзінаў у дзень, і гэта толькі «чыстая» праца. Кожныя дзьве гадзіны нас пераклічваў канвой... У Тайшэце шмат беларусаў сядзела. Былі й такія, што партызанілі пасьля вайны. Былі і былыя «франтавікі» з Чырвонай арміі. Яны хоць «іскуплялі» крывёю сваю «віну», але іх усё адно бальшавікі пасадзілі...

Самы мой жудасны ўспамін з Тайшэта — гэта пахаваньне ксяндза Адама Станкевіча. Памятаю, як прыйшлі літоўцы і кажуць: «Ксёндз у нас памірае. Як бы вады знайсьці?» А ў нас там вады не было. Рабілі сьвідравіны, але да 84-мэтровай глыбіні яе не знайшлі ды не змаглі прабіцца глыбей — далей была скала... А рэчка знаходзілася аж у 7 кілямэтрах ад лягеру. Зьбіралі дажджавую ваду, а зімой даводзілася нам зьбіраць сьнег і тапіць яго. Ужо пазьней нам далі машыну, і мы вазілі лёд зь невялічкай рэчкі, нарыхтоўвалі яго, перасыпалі пілавіньнем...

Дык вось, просяць літоўцы вады. — А адкуль ён? — пытаюся я. — Зь Вільні, — адказваюць. Я прынёс сьнегу, растапіў яго, і яны панесьлі ваду. Пасьля літоўцы зноў прыходзяць. Я кажу: — А вы ня скажаце прозьвішча ксяндза, не Станкевіч? — Станкевічус Адомас, — адказваюць яны. Распытаў я, у якім бараку ён ляжыць і пабег туды, а Станкевіч быў ужо мёртвы... Яго было цяжка пазнаць...



*На партрэце — ксёндз Адам Станкевіч. Ён жа сядзіць у першым шэрагу сярод настаўнікаў і вучняў Беларускай гімназіі ў Вільні, 1933 год. Здымкі друкуюцца ўпершыню*

У Тайшэце было так устаноўлена, што калі каго хавалі, абавязкова нябожчыка спачатку прыбівалі ў морг, каб зрабіць ускрыцьцё. Баяліся, каб хтосьці жывы ня ўцёк пад выглядам мёртвага. «Працаваў» там адмысловы «мясьнік», які ўпрост ірваў труп на кавалкі...

Вырашыў я, што пахаваю ксяндза Адама, правяду яго ў апошнюю дарогу. Узяў сані, палазы якіх былі з дрэва зробленыя. Вёз іх на сабе, бо коней не было. Дагэтуль я не магу быць на пахаваньнях, бо не магу забыць таго, што адбылося ў Тайшэце... Падвозім сані да варотаў. Яны адчыняюцца. Зь дзяжуркі выходзіць «мясьнік» з «кішнёй», што рыбакі зімой лёд прабіваюць. І ёй ксяндзу ўдарыў у грудзі... А пасьля другі выходзіць з кувалдай і б'е яго па галаве. Праламіў яе, паляцелі мазгі...

Я ледзь не самлеў. Ляжыць ксёндз Адам Станкевіч у труне (хоць гэта толькі названьне, а не труна), увесь заліты крывёю...»

**Запісаў Сяргей Ёрш**




**1749.** Рэч Паспалітую Абодвух Народаў толькі ўмоўна можна назваць адзінай дзяржавай. Гэта час росквіту магнацкага «аднаасобніцтва» пад радзівілаўскім лёзунгам: «Кароль сабе кароль у Варшаве, а я — сабе ў Нясьвіжы».

Такі стан рэчаў сучасныя гісторыкі зьвязваюць зь імем караля і вялікага князя Аўгуста III (1696—1763). Лічыцца, што ў 1733 годзе Аўгуст III заняў варшаўскі і віленскі пасады пры дапамозе расейскіх і саксонскіх войскаў. Прычым увесь час свайго трыццацігадовага кіраваньня Аўгуст III паралельна быў курфюрстам Саксоніі. «Ня меў палітычнай канцэпцыі, кіраваў з дапамогай фаварытаў». Менавіта гэтаму пэрыяду ня абавязаныя тэзай, што Рэч Паспалітая загразла ў п'янстве і шляхецкай сваволі. «Аднак, пры Аўгусьце III ажывіліся культура і эканоміка», — кажа энцыкляпэдычны даведнік «Беларусь».

Вялізны пажар спаліў дзьве трацыны Вільні... Беласток атрымаў герб. Пад патранажам уніяцкага мітрапаліта Фларыяна Грабніцкага скончаецца перабудова полацкае Сафіі. Пад час Паўночнай вайны сьвятыню ўзарваў Пётар I. Цяпер яна паўстае ў абрысах віленскага барока. У Мсьціславе Я.Гляўбіц перабудоўвае Кармэліцкі касьцёл. Паміж фрэсак на біблейскія тэмы ёсьць сьвецкі сюжэт. Кармэліты пахрысьціянску мірна супрацьстаяць маскоўскім агрэсарам...

Але найгалоўным цэнтрам краю, сапраўднай другой сталіцай у сярэдзіне XVIII ст. робіцца Нясьвіж. Нясьвіскае княства Радзівілаў мае свае войска, суд і музычную капэлу. Пан-гаспадар — Міхал Казімер Рыбанька (1702—1762). Пры ім з 1740 году пачынае дзейнічаць прыдворны тэатар, з 1747 — кадэцкі корпус для ўласнага войска, у 1749 завозіцца абсталяваньне для друкарні. Рыбанька актыўна шукае выкладчыкаў для маючай адкрыцца ў 1751 годзе музычнай школы.

Поўным ходам ідзе перароблка гораду. Усё мусіць адпавядаць духу часу. У стылі барока перабудоўваюць Ратушу (скончылі ў 1752) і Езуіцкі касьцёл. Палац Радзівілаў, разбураны на пачатку стагодзьдзя шведамі, быў «узбарочаны» яшчэ ў 1726 годзе.

У 1749 у Радзівілавым тэатры ставяць Мальераву п'есу «Цудоўныя каханкі», якая ў перакладзе гучыць як «Убачанае не мінае».

Тэатар стварыла Францішка Ўршуля Радзівіл у 1740 годзе. Паводле Адама Мальдзіса, гэта быў «першы прыватнаўласьніцкі тэатар заходніх і ўсходніх славянаў», які да 1749 году паставіў каля 20 спэктакляў.

Зрэшты, у расейцаў усё наперадзе. Рэальна яны сустрэнуцца з намі толькі праз дваццаць тры гады, а да паўстаньня Касьцюшкі застаецца сорак пяць гадоў.

**Севярын Квяткоўскі**



*Міхал Казімер Радзівіл "Рыбанька"*

старалітоўскае жыцьцё

# КОШТЫ

Вольга БАБКОВА

Дзе хавалі грошы ў старыя часы? Некаторыя закопвалі ў зямлю, пра што сьведчаць раскапаныя пазьней скарбы. Або ў скрынях, «*пячацю запячатаных, замкнутых замком*». На такія скрыні ў сьвірнах з шляхецкім дабром перш за ўсё і палявалі рабаўнікі: «*...у скрынях, замкі паадздіраўшы, з адное скрыні ўзялі коп чатырыста літоўскіх (грошаў) лічбы і манеты літоўскія, дзьвесьце пенязей у грош...*».

Грошы загортвалі ў хусткі, ручнікі, зашывалі ў вопратку, хавалі ў шапку, насілі каля сябе ў машне, каліце, сумках, торбах скураных і суконных, клумках скураных, мяшках замшавых.

Адна **капа** раўнялася 60 літоўскім грошам, рубель — 100 грошам, грыўна — 48 грошам, злоты — 30 польскім грошам. Дробныя грошы лічыць было няпроста. Слугі ваяводы смаленскага Тышкевіча прывезьлі да братоў Храбтовічаў ажно дзевятнаццаць соцень копаў грошаў літоўскіх, каб узяць у заставу на некалькі гадоў маёнтак Шчорсы. Прыехаўшы да Шчорсаў «*добра па абедзе*», яны далі гаспадарам лічыць грошы, «*каторых зь вялікаю пільнасьцю лічачы і не маглі больш адлічыць, толька сем сот коп грошай і то ўжо было больш гадзіны ў ноч*». Стаміўшыся і «*не хоцячы больш лічыці пенязей, упёрліся на то, абысь мы ім двор і імене зь людзьмі пастулілі...*».

Гаворачы пра грошы, не абысьці ўвагай людзей, якія займаліся купляй-продажам прафэсійна. На старонках актавых кніг даволі часта сустракаюцца ўзгадкі пра купцоў, якія, дзякуючы свайму занятку, рабіліся ахвярамі ці закладнікамі рабаўнікоў ці абставінаў. У менскай судовай кнізе апісваецца выгляд віленскага купца Яна Рамановіча, які «*тут да Менска для скупаваня ў купецкіх і іных патрэбах сваіх прыехаў*» і спыніўся ў гаспадзе мешчаніна **Федара Гарасімовіча**, дзе і быў абрабаваны і зьбіты ліхімі прыхаднямі. Купец быў апрануты ў зімовую цёмна-зялёную дылею зь люндушавага сукна, падшытую лісамі, падперазаны чырвоным пасам. На галаве — шапка. На пасе было прымацаванае чэрасла з 300 дукатамі. Спыненьне ў менскай гасподзе ледзь не каштавала віленскаму госьцю жыцьця.

Праз купецкія рукі праходзіла шмат грошай і тавараў, пералік якіх займае не адну старонку актавых кніг. Закладзеныя тавары вазы купцоў грукаталі па землях Вялікага Княства ўздоўж і ўпоперак. Вось адзін зь пералікаў тавару, «*паскупаванага ў краі рускім, у валасьцях*», які месьціўся на трох вазах. На першым возе — лісы, бабры чорныя, «*куніц цудных пяць, каждая па 50 грошай*». На другім возе — мёд прэсны, «*рыб вялых нямала*», шчупакі, лешч, воск. На трэцім возе — ізноў мёд прэсны, путы жалезныя для коней, уюны, траска, «*кажуху слуцкае работы апарцістых вялікіх на продаж купленых*», «*белкавыя скуркі*».



*Малюнак Сяргея Харэўскага*

Колькі што каштавала тады? Шабля каралеўскага маршалка Абрама Мялешкі, купленая ў Вільні ў злотніка Кліма Шостака, была «*срэбрам праўная злацістая с паскамі шалкоў розных*» і каштавала 70 польскіх злотых. Корд мог каштаваць 5 злотых, ручніца з колам — 2 копы грошаў. Панцыр — 40 таляраў. Залаты пярсьцёнак з рубінам «*барза цудным*» каштаваў 73 залатых, пярсьцёнак са сьпічастым дыямэнтам — 6 коп грошаў, каралі зь вялікімі пэрлінамі — 3 капы. Срэбны пас, «*атліваны пазалацісты абручасты*» меў кошт у 12 коп грошаў. Дарагой была і добрая вопратка, нездарма яе кралі найчасьцей. Зялёны атласны жупан мог каштаваць 23 капы. Куртка «*шарлатавая чырвоная, аксамітам чорным падшытая ад падолу па пас, з гузамі дратовымі залатымі 2 тузіна*» каштавала 18 коп грошаў. Кашуля мужчынская калёнская — 3 капы, жаночая блакітная «*сукня*» — 4. Футра лісяе, сукном чорным крытае, каштавала 12 коп грошаў, каўпак, падшыты лісамі — 2 залатых, каўпак аксамітны, сабальцамі падшыты — 8 коп грошаў. Боты і пас баваўняны чырвоны — па 16 грошаў. Кажух барані — 1 капу, сярмяга сукна белага — 30 грошаў.

А вось што каштаваў рыштунак каня са збруяй у 1579 годзе ля Слоніма: сядло ярчак — 2 капы грошаў літоўскіх; хамут — 6 грошаў, аброць — 4 грошы, лейцы — 8 пенязей. За каня варанога інаходніка трэ было выкласьці каля 20 залатых польскіх.

Дзевяць ушаткаў піва ў карчме каштавалі 54 грошы. Сама ж карчма «*мядовая, піўная і гарэлачная с пляцам і дзьвема агароднікамі*» Адама Багуфала ў мястэчцы Зьдзітава магла каштаваць 60 коп грошаў літоўскіх. За нейкі шляхецкі дом прасілі 200 коп. Чынш складаў на той час паўтары капы грошаў, за столькі ж можна было набыць і каўпак сукна люндушавага чырвонага, падшытага лісой.

Зрэдку тыя грошы выкопваюць з зямлі... Сёньня на нашай зямлі ўжо не чуваць звону манэтаў, толькі шаргацьць папера...

**СЛОЎНІК СТАРАБЕЛАРУСКАЙ МОВЫ:**
**шарлатавы, шкарлатавы** — *пурпуровы*



# НЕ ПЯЮЦЬ ПЕЎНІ

*Жнівеньскія*

Уладзімер АРЛОЎ

## Анкляў Радзімы

Колькі параў амаль дарослых дзяцей, супольны інтэлект якіх прыкладна роўны інтэлекту жукі або недакурка, так і ня сьцямілі ўва ўкраінскай мытнай дэклярацыі, што такое «громадянство», ня кажучы ўжо пра «країну народження».

Субтыльная расейскамоўная бляндынка да свайго пяцігадовага Тадзіка заўсёды гаворыць па-польску. Дагледзеўшы да канца дэманстраваны празь відэаплэеры эратычны фільм, бляндынка абурана верашчыць, каб «больше такую гадость не показывали».

Да тваёй беларускай мовы ў аўтобусе ставяцца па-рознаму. Тадзікава маці — зьдзіўлена. Немаладая міністэрская дама — абсалютна індыфэрэнтна. Кіроўцы пераходзяць на «Вы». Прадстаўніца турфірмы зьлёгку палохаецца. Палкоўнік увесь час сьпіць.

## Палкоўнік

Уяві ўтульнага хатняга пацучка, якога нейкая злая ці добрая сіла, ня надта зьмяніўшы пысу, ператварыла ў дзьвюхногую істоту ніжэй сярэдняга росту. Ад самага Менску гэтая істота жлукціць гарэлку, сьпіць і раз-пораз патрабуе спыніць аўтобус. Пасьля кожнай такой сэрыі пацучок надзявае новую кашулю. Апратку падае ягоная жанчына, таксама маленькая, але падобная ўжо не да пацучка, а да белай мышкі, прычым падабенства гэткае вялікае, што, здаецца, у яе ў шортах хаваецца хвосьцік.

На чарговае патрабаваньне пацучка спыніцца каля кусьцікаў міністэрская дама неспадзеўкі рэагуе абураным лямантам. «Потише, — зусім цьвяроза адгукаецца пацучок, — я, между прочим, работал полковником». Мышка ўстаўляе свае тры шэлягі. «А ты что, работала подполковником?» — абрывае міністэрская дама. «А ты и под лейтенантом не смогла бы!» — парыруе мышка.

## Карпенка

На кожнай мяжы адбываецца зьбіраньне пашпартоў, а потым — іх раздаваньне. Мэханізм аднолькавы: прадстаўніца турфірмы гучна чытае прозьвішчы ўладальнікаў. Сярод апошніх ёсьць нейкі Карпенка. Палкоўнік сьпіць або дрэмле, але, пачуўшы прозьвішча Карпенкі, нязьменна адплюшчвае адно вока і гучна абвяшчае: «Памёр!»

## Палкоўнік-II

На ўкраінскіх памежных пераходах Палкоўнік упэўнена дапамагае суседзям запаўняць дэклярацыі, вымаўляючы ўкраінскія словы на беларускі капыл. Гэта сьведчыць пра тое, што ў гады сваёй не такой ужо і далёкай маладосьці Палкоўнік мог змагацца з нацыяналістамі, за што на пачатку 90-х гадоў і быў узнагароджаны гадзіньнікам з «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сьцягам, які ня зьняў з рукі і напрыканцы гэтых самых эпахальных 90-х.

## Румынія

Магчыма, пад уплывам сёньняшняга сонечнага зацьменьня гаспадар прыдарожнай кавярні спрабуе даць табе рэшту з даляраў нямецкімі маркамі, паважна пераконваючы, што ў Румыніі курс 1:1.

Фурманкі тваё вока сустракае на шашы ненашмат радзей за аўтамабілі. Роўнасьць статусу гэтых транспартных сродкаў падкрэсьліваюць нумары дзяржаўнай рэгістрацыі ў адных і ў другіх. Часам парнай запрэжкай кіруе падобны да «крутога» хлопец у белай кашулі з гальштукам.

Прыбіральняў усьцяж аўтастрады не прадугледжана, таму экалягічны прыпынак робіцца пасярод палетку кукурузы. Кіроўцы аглядаюць блізкія далягляды з загадкавай усьмешкаю. Неўзабаве высьвятляецца, што ў папярэднюю паездку румынская паліцыя зрабіла якраз у гэтым месцы засаду і двум грамадзянам РБ, засьпетым «на гарачым», давялося выкласьці пад пагрозаю арышту і вязьніцы па 100$.

Каля гораду Канстанцы згадваеш, як у школе праходзілі паўстаньне на браняносцы «Пацёмкіне» і на кантрольнай твой аднакласьнік Коля напісаў: значэньне паўстаньня ў тым, што маракі здаліся румынскім уладам. Цалкам верагодна, што менавіта нашчадкі рэвалюцыйных расейскіх матросаў робяць засады ў кукурузе.

## Палкоўнік-III

Позна ўначы твой аўтобус доўга стаіць на румынска-баўгарскай мяжы. Палкоўнік колькі хвілінаў нэрвова тупае каля дзьвярэй, затым са спрынтэрскай хуткасьцю бяжыць да шлягбаўму, апярэджвае баўгарскіх памежнікаў, што запозьнена кідаюцца напярэймы, і зь пераможным крыкам «Ніхт шысэн!» хаваецца за дзьвярыма будынку зь літарамі WC.

Баўгарскія братушкі не адкрываюць агню, што дазваляе вернутаму пад канвоем у Румынію Палкоўніку пагардліва заўважыць: «Хіба гэта мяжа?» і даць афарыстычную дэфініцыю: «Мяжа — гэта там, дзе страляюць».

## Нэсэбар

У антычнасьці гэты баўгарскі горад на высьпе быў грэцкім і зваўся Мэсамбрыяй. Грэцкім ён заставаўся яшчэ ў 20-я гады нашага стагодзьдзя. Стары гаспадар дому, дзе ты жывеш, — грэк на імя Артадоксіс, або, скарочана, Доксі, што ў перакладзе значыць праваслаўны.

Доксі добра памятае, як Народная Рэспубліка Баўгарыя хацела ўступіць у Савецкі Саюз. Ты прапануеш выпіць за тое, што ідэя ляснулася. Вы седзіцё на аздобленай белым мармурам тэрасе двухпавярховага дому. Пад вамі, на суседнім падворку, — рэстарацыя, куды заваблівае публіку велічэзны чыюк-ара. Кажуць, яго завуць Тодарам Жыўкавым. Абачліві Доксі не пацьвярджае, але й не абвяргае гэтае інфармацыі.

Чыюк выгуквае нейкія посткамуністычныя лёзунгі. Ад мора, да якога сотня крокаў, брыдуць амаль увабдымку аднолькава стамлёныя доўгім сьпякотным днём цыган і яго мядзьведзь. На мініятурным пляцы, акупаваным столікамі навакольных рэстаранаў, цыган прысмоктваецца да такога самага зялёнага гусака «Асьлінае крыві», які стаіць і на мармуровай стальніцы перад табой. Мядзьведзю таксама хочацца віна, і ён спрабуе адабраць у гаспадара пляшку.

Унізе гучна лаюцца матам п'яныя расейцы. Іх не пускаюць у рэстарацыю да Жыўкава, і за гэта гарачыя самарскія хлопцы абяцаюць усе... усіх афіцыянтак, а за адным разам і афіцыянтаў. Мядзьведзя пагрозы пакуль што не датычаць, але ён палахліва цісьнецца да гаспадаровых ног.

Доксі хваліць тваю «белавескую». Табе хочацца наліць мядзьведзю і выпіць зь ім за тое, што Баўгарыя ня стала шаснаццатай рэспублікай-сястрой.

## Цэцы*

*памяншальная форма жаночага імя Цьвятана.

## Творчая лябараторыя

З адзеньня на ёй была толькі цыгарэта.

Ты напішаш апавяданьне, якое будзе пачынацца з гэтага сказу.

## Нэсэбар-II

Уваход на пляж новага мацерыковага Нэсэбру больш за ўсё нагадвае табе філіял гарадзкога сьметніку. Але затое — поўная адсутнасьць расейскае папсы, якая ў Беларусі апанавала падобныя мясьціны, як кароста некалі здаровую скуру.

У цябе ўваччу праявіцца ліпеньская Нарач зь цішанкоўскім цеплаходам-рэстаранам, дзе зямля, вада і паветра ўжо дазваньня атручаныя песенькамі пра дзевачак, «которые хотят», пра забойцаў-камбатаў, параноікаў-есаўлаў і пра тое, зноў жа, што «всем девчонкам хочется». Можа, якраз тут і трэба шукаць прычыну экалягічнае катастрофы, у выніку якой цьвіце нарачанская вада, а вугорычы сотнямі выкідаюцца на бераг, выбіраючы не інтэграцыю, а сьмерць?

## Любі свае

Баўгаркі ўсіх узростаў запякаюцца на сонцы безь верхняй часткі купальніку. Да экспазыцыі грудак, грудзей і грудзішчаў ты прызвычаесься надзіва хутка, а раніцой прыйдзеш да высновы, што нашыя малочна-белыя ўсё адно лепшыя за іхныя чакалядавыя.

## Тапелец

Недалёка ад цябе з мора выцягнуць маладога тапельца. Наваліс меў рацыю, калі пісаў, што сьмерць — блакітнага колеру.

Ты пакуль што ня хочаш патануць і наагул зьбіраесься яшчэ крыху пажыць, але з багавіньня памяці падступна вылузваецца эпітафія, якую адночы прыдумаў сабе Фолкнэр: «Пісаў кнігі і памёр».

## Пісьменьнік Станеў

Баўгарскі пісьменьнік Эміліян Станеў жыў на летніку на гары Віташы. Аднаго разу да яго прыехаў сябра-літаратар. Усьцешаны зьяўленьнем госьця Станеў кажа: «Вось спушчуся хутка ў Сафію, усіх пісьменьнікаў перастраляю са шмайсара. Пакіну толькі чалавек пятнаццаць». Сябра легкадумна цікавіцца, што будзе зь ім. Станеў: «Ты выбраў непрыемнае пытаньне».

## Тэлеграма Лукашэнку

Пасьля нестандартнай пляшкі «Кадаркі» ў цябе нараджаецца ідэя паслаць з Баўгарыі тэлеграму грамадзяніну А.Лукашэнку. Пасьля другой пляшкі таго ж напою ўсплывае на думку, як А. Купрын адбіў тэлеграму цару: «Долой самодержавие!», а ўраньні атрымаў адказ: «Выпил — похмелись. Николай II». Пасьля трэцяй пляшкі ўспамінаеш, што ўжо накіроўваў А.Лукашэнку тэлеграму, калі ў парлямэнце зьбілі дэпутатаў ад апазыцыі. Тэлеграма была з аплатаю паведамленьня пра ўручэньне. Ты не атрымаў нават гэтага паведамленьня.

---

die modernen Sagen



# БАЕЧКІ З ТАМБУРУ

Сяргей БАЛАХОНАЎ

### НОЖ І СЯКЕРА

Мяне як-та мянты задзяржалі. Тое ды сёе, сталі абысківаць. У пінжаку нож раскладны найшлі. А ў сумцы ў мяне сякера была. Дык яны сказалі, што нож канфіскуюць, каб я каго не прырэзаў. Сякеру ж не забралі. Во я й думаю: ці папраўдзе яны баяліся, што я кагосьці там пырну, ці можа сяржанту ножычак мой панаравіўся. Казаў бы, сякераю я б нікога ня ўбіў, калі б захацеў.

### А Ў КАНТРАБАНДЫСТА...

На Ўкраіне мёд танны, бо шмат хто пасекі трымае. Вось жа, вязуць да нас у Беларусь, каб падзарабіць збольшага ды купіць які-небудзь тэлевізар ці лядоўню. Але перш, чым зарабіць, той мёд шчэ трэба неяк праз мытню правезьці. Хітруюць патроху. Знаю — правезьлі два бідоны ў мяшках, засыпаных дробнаю бульбай.

### НЕ ЗДАВАЦЦА!

У час нейкага гарадзкога сьвята міліцыянты валаклі да машыны ўдупель п'янага хлопца, які сам ледзьве трымаўся на нагах. Не зважаючы на гэную акалічнасьць, ён яшчэ спрабаваў выкруціцца ды з робленай дзіцячай наіўнасьцю пытаўся ў «вартавых парадку»: «А што, вы забіраеце, калі нават чалавек усяго сто грам піва выпіў?»

### ХАЧУ Ў НАРМАЛЬНУЮ

У нас неяк у двары махач быў няхілы. Якісь падпаты мужык граміў легкавікі. Гаспадары павыскоквалі з пад'ездаў і давай яго байдосіць. Той гарлаў, як захламыздачны, ды ладна супраціляўся. Выклікалі міліцыю. Мужык жа па зямлі качацца пачаў, што глузданутьі. Паспрабуй тут кайданкі накінуць. Але ж ён, сука, хоць і бухім быў, ды кеміў, што ў вар'ятню могуць адвезьці, то крычаў: «Вязіця мяне ў нармальную міліцыю, как і палагаецца».

### ДОБРАЙ РАНІЦЫ, НАЦЫЯ!

Аднаго разу ехаў я крыху пад чаркаю ў аўтобусе. Трымаюся за поручні, здаецца. Аўтобус тармазнуў, а я — шмяк! — упаў і адрубіўся. Ня знаю нат чаго. Ні хера ня помню. Толькі пад раніцу халаднавата стала, дык я хацеў ад жонкі коўдру на сябе перацягнуць. Цап-цап, а фічку ў лычку — нічога нямашака, дый ложак якісьці завузкі і жорсткі, як дошкі. Расплюшчваю вочы — траса! — ляжу я на лаўцы пад паветкай прыпынку. ■

# Ў НЭСЭБРЫ

*маргіналіі*

## Нэсэбар-III

У цябе можа ўзьнікнуць уражаньне, што горад нядаўна перажыў вусьцішны паморак: ледзьве не на кожных дзьвярах вісяць друкаваныя абвесткі зь іменамі і фотаздымкамі ў чорных рамках. Учытаўшыся ў жалобныя тэксты, даведваесься, што яны паведамляюць ня толькі пра нядаўнюю сьмерць, але і пра сарачыны, пра тры месяцы, паўгода, год і пра кожныя новыя ўгодкі па памерлым.

Прымерыўшы гэтую традыцыю на Беларусь, ты ўсьцешана думаеш, наколькі прасьцей жывецца ў цябе дома. Інакш колькі клопату было б і табе, і тым, хто беражэ твой спакой і нацыянальную згоду. А раптам нехта пад выглядам законных жалобных улётак пачаў бы клеіць крамольныя афішкі пра мітынгі? А нехта надумаўся б разьвесіць партрэты Юр'я Захаранкі і Віктара Ганчара. Або, крый божа, партрэты сэкс-сымбаля лядашчых пэнсіянэрак і пэнсіянэраў нетрадыцыйнай арыентацыі, ды яшчэ зь якімі-небудзь падазронымі датамі...

## Златка

........................................................

## Землятрус

Прахопліваесься ўначы ад таго, што хорам крычаць чайкі, мяўчаць каты, брэшуць сабакі, а ў цябе пад ложкам варочаецца, намагаючыся падняцца, хтосьці з камплекцыяй народнага пісьменьніка Беларусі Янкі Брыля. Нацягваеш шорты, хапаеш партманэтку і недарэчна згадваеш, што двойчы ганкураўскі ляўрэат, твой зямеля Рамэн Гары, ад'яжджаючы з Парыжу, хаваў на выпадак пажару свой рукапіс у лядоўню.

Газэты паведамляюць, што суседняя Турцыя замовіла для ахвяраў 40 тысячаў поліэтыленавых саванаў, а Доксі тлумачыць землятрус Божай караю за тое, што Турцыя давала аэрадромы самалётам, якія бамбавалі Сэрбію.

## Маўзалей

Кожны дзень тэлебачаньне паказвае табе, як у Сафіі спрабуюць зруйнаваць Маўзалей Г. Дзімітрава. Не, ніхто яго там не бароніць. Проста дынаміт ніяк не бярэ тую спаруду, што была збудаваная яшчэ і як атамнае бомбасховішча.

Нарэшце дабілі, і ў верасьні на месцы Маўзалею дасьць канцэрт Хульё Іглесіяс.

У цябе варушыцца пытанейка: ці будзе свой Маўзалей у Беларусі?



## Гётэ як вібратар

Баўгарская газэта «Труд» радуе прыхільнікаў таленту Ё.В.-Гётэ карэспандэнцыяй пра тое, што да 250-х угодкаў паэта на ягонай радзіме выпушчаны адмыслова юбілейны вібратар. Інтымны прыстасон мае дзьве батарэйкі, чорнае сіліконавае пакрыцьцё і клясычныя, як цьвердзіць газэта, памеры: даўжыню — 19 і дыямэтар — 4 см. Гётэ-вібратар каштуе 99 марак і адлюстроўвае тыповую паэтаву паставу з закладзенымі за плечы рукамі, што «дазваляе без праблемаў выкарыстоўваць яго паводле прызначэньня».

Яшчэ нядаўна, як сьцьвярджаў у адным інтэрвію З.Пазьняк, беларусы сэксам не займаліся. Але час зьмяніўся, і сёньня паўстае нерытарычнае пытаньне: хто з выбітных дзеячоў беларускай мінуўшчыны або сучаснасьці станецца правобразам першага айчыннага вібратара?

## Бургас

У баўгарскім горадзе Бургасе, які падобны да Адэсы, ёсьць помнік Адаму Міцкевічу, што жыў тут у 1855-м, апошнім годзе свайго жыцьця. Ты недзе чытала, што на сьвеце 56 помнікаў Міцкевічу і 27 — Пушкіну. Цяпер свой Пушкін ёсьць і ў Менску. Такім чынам, па помніках Міцкевіч апярэджвае кучаравага калегу роўна ў два разы. Але ж хутка зьвязіца і менскі Міцкевіч, і ранейшы разрыў будзе адноўлены.

Адметна, што менскага Пушкіна паставілі каля гатэлю. А менскага Міцкевіча пасадзяць паблізу «Валадаркі».

## Найдан Вылчаў

Вялікі сябар Беларусі паэт Найдан Вылчаў нядаўна набраў на кампутары і выдаў новую кнігу. Адзін асобнік занёс у Нацыянальную бібліятэку, два падараваў крытыкам і літаратуразнаўцам, а большую частку пяціасобнікавага накладу пакінуў сабе.

## Прэзыдэнт Беларусі

Праз два тыдні нарэшце знаходзіш у газэтах першае паведамленьне зь Беларусі. З нататкі, зьмешчанай чамусьці пад фотаздымкам косаўскіх дэманстрантаў, што нясуць плякат «Russians killed us», ты даведваесься, што Беларусь мае новага прэзыдэнта. Яго завуць Сямёнам Шарэцкім, і кіруе ён пакуль што зь Вільні.

## Дранько-Майсюк

«Жыў калісьці хлопчык. Ён жыў у самай несправядлівай краіне на сьвеце. Ёю кіравалі істоты, якіх, паводле ўсіх чалавечых меркаў, трэ было прызнаць вырадкамі. Аднак гэтага ня здарылася».

Жыў калісьці ты. І ты прачытаў вышэйцытаваныя словы ў паэта і эсэіста Л.Дранька-Майсюка. Але потым ты расплюшчыў вочы і ўспомніў, што іх напісаў І.Бродзкі, а Дранько-Майсюк быў стомлены Парыжам.

## Буслы

У твой перадапошні баўгарскі дзень у высокім небе над морам праплывае велічэзная чарада буслоў. Сотні, а можа і тысячы птушак ляцяць адтуль, дзе калісьці цябе падвозіў ад Полацку да Менску спадарожны кіроўца з-пад Тулы. Убачыўшы ў небе бусла, ты даверліва сказаў расейцу, што гэта лічыцца ў беларусаў шчасьлівай прыкметай. У адказ старэйшы брат зазначыў, што ў буслоў смачнае «сладкое» мяса.

## Палкоўнік-IV

Палкоўніка ты сустракаеш амаль як сябра, што аздобіць бясконцую дарогу дадому. Але сьветлыя надзеі ня спраўджваюцца. Палкоўнік худы і цьвярозы, як маласольны гурок. На пяты дзень адпачынку з гатэльнага нумару ў Палкоўніка вынесьлі ўсё, апроч Мышкі і шляхетна пакінутых на астатняе шчасьлівае жыцьцё дваццаці даляраў.

Табе Палкоўнік адказвае пабеларуску. Яшчэ лепей гэта атрымліваецца ў Мышкі. Ты разважаеш пра складаную залежнасьць дабрабыту і нацыянальнай сьвядомасьці.



*Руіны маўзалею Дзімітрава*

## Румынія-II

Румынія сустракае цябе сатэлітавымі антэнамі на вясковых мураванках і нядошлай кабылкаю ў сучасным цэнтры Канстанцы, што на скрыжаваньні цярпліва чакае зялёнага сьвятла, каб цягнуць далей дабітыя калёсы.

З дунайскай стромы глядзіць на далягляд зь велічнай пэрспэктывай Карпатаў масянжовы Стэфан Вялікі на кані. Некалі над Нёманам у Горадні будзе стаяць такі помнік Вітаўту, а над Дзьвіной у Полацку — Усяславу Чарадзею.

## Украіна

Твой аўтобус спыняе ўкормлены міліцыянт, у якога менавіта сёньня дзень нараджэньня. Пакуль доўжацца перамовы наконт падарунку, ты маеш магчымасьць пачаць адаптацыю да расейскае папсы, якую зь нейкай паталягічнай асалодаю круцяць ва ўсіх без вынятку наваколных крамках і шапіках.

## Тост

Вып'ем за вялікі расейскі народ у ягоных этнаграфічных межах!

## Сон

Закалыханы аўтобусам, ты засынаеш. Табе сьніцца родная беларуская рэчаіснасьць.

Прачынаесься з палёгкаю.

Цябе разбудзіў беларускі памежнік. ■

*бібліятэка*

# ЛЮДЗІ ЗЬ НЯСПРАЎДЖАНЫМІ МАРАМІ

Адамовіч Л. **Кветкі самотнай князёўны:** Аповесьці/ Прадмова Ў.Дамашэвіча. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. (Першая кніга празаіка) — 222 с. — Наклад 1100 ас. ISBN 985-02-0409-7

Нейк чарговы раз выправіўшыся зь сябрам па гомельскіх кнігарнях у пошуках «беларушчыны», пабачыў новую кнігу з сэрыі «Першая кніга празаіка». Сэрыя старая, заснаваная ў 1976 годзе, але, шчыра кажучы, зь вялікай плоймы твораў, выдадзеных «маладымі і падаючымі надзеі», сваю бібліятэку я аздобіў толькі дзьвюма кніжкамі: Вітаўта Чаропкі «Храм бяз бога» й Мар'яна Віжа «Лябірынт». Вось і ўсё, бадай.

Новая кніжка прывабіла зь некалькіх прычынаў: па-першае, прозьвішча — шырока вядомае, нават гучнае. Праўда, аказалася, што гэта не Алесь, не Славамір, гэна Лідзія Адамовіч. Па-другое, назва аповесьці інтрыгуючая. У анатацыі так і напісалі: «Гэта даўняе паданьне, з часоў князя Вітаўта. На гэтым месцы праклён існуе. Калі Чорная здань дакранаецца да чалавека — ён робіцца сьляпым духоўна... Ён любіць толькі цела... І гіне ў сьляпым каханьні... Першай ахвярай Чорнай здані стала Дарына, нарачоная князя Вітаўта. Але й дагэтуль зьяўляецца здань людзям, бо ня ведаюць яны, у чым яе сьмерць...» Па-трэцяе, мастацкае аздабленьне кніжкі добрае. (Хай сабе самотная князёўна нават нагадвае не нарачоную Вітаўта, а больш падобная да Барбары Радзівіл у каранацыйным уборы.)

Ёмка прымасьціўшыся ў хатнім крэсьле, узяўся за чытаньне. На старонцы 24 мяне чакала першая недарэчнасьць: «У пакоі маёнтку, праз шырокі аконны праём, відаць постаць Дарыны». Ну, відаць дык відаць, з гэтым не паспрачаесься, але дзе Л.Адамовіч бачыла ў тыя часы, нават калі браць у разьлік апошні год жыцьця Вітаўта — 1430 — шырокія аконныя праёмы?

Хутка, усяго празь дзьве старонкі — новы «сюрпрыз». «Хлопчык дашкольнага веку, паслухаўшы ўсяго адзін разок сваю выхавацельку, пачынае спрытна граць на жалейцы». Але сапраўдная фантастыка чакае чытачоў на старонцы 59: «Яна чула, быццам ён атрымаў у спадчыну маёнтак ад свайго прадзеда, стаў мільянэрам і цяпер узначальвае нейкую фірму». Цудоўная казка! Размова ідзе пра маёнтак Наркевічаў-Ёдкаў — Наднёман. Зьдзіўляюся, бо нешта раней не было чуваць, што ў нас у Беларусі магчыма атрымаць у спадчыну паўразбураны дом, які зьяўляецца помнікам архітэктуры і знаходзіцца пад абаронай дзяржавы.

Але досыць пра хібы маладога празаіка і яе рэдактара, разважаем пра зьмест.

Гэта аповесьць пра тое, як маргіналы спрабуюць выжыць у гэтым цяжкім сьвеце. Гэта аповесьць пра тое, як ня трэба жыць. Гэтая аповесьць мусіла б быць напісана трасянкаю.

Здаецца, лепей было б, каб аўтарка напісала сацыялягічнае дасьледаваньне, якое мела навуковы напрамак. У такім разе ў яе была б магчымасьць нейк дыстанцыявацца ад таго асяродку, у якім яна жыве, бо нават няўзброеным вокам бачна, што яна таксама з гэнага кругу, а характары сваіх герояў сьпісала са сваіх знаёмых. «Ну і што? — нехта запярэчыць мне. — Ну, паглядзяцца ў люстэрка, ну, убачаць сваё жахлівае абліччa? А што рабіць?»

Але жах і сум ня ў тым, што аўтарка наважылася напісаць пра нашае жыцьцё, жахліва тое, што *мы так жывем*!!! Вось што жахае! Вольна ці не, а на ўспамін прыходзіць страшэнная праўда з кніжкі Івана Макаловіча «О, як далёка нам яшчэ да Беларусі». Разам з тым, хочам мы таго ці не, а даводзіцца прызнаць (і ў гэтым нас пераконвае Л.Адамовіч), што «маргінальны статус стаў для сучаснай Беларусі ня столькі выняткам, колькі нормай жыцьця мільёнаў». Па ўсім відаць, што аўтарка гэта добра разумее, але дзе ж выйсьце?

Так усіх сваіх шматлікіх герояў ды гераіняў (дарэчы, іх сапраўды замнога, нават часам пачынаеш блытацца, хто ёсьць хто і хто з кім яшчэ ня спаў) прыводзіць да храму, дзе захоўваецца Дамавіна Гасподняя, а значыць, усе яны прагнуць пакаяньня. Але не адчуваецца, што ўсе яны пазбавіліся старых грахоў, не наробяць новых, увогуле выйдуць са сьвятой зямлі ўзноўленымі, акрыленымі. Ды таксама, ці магчыма ў сучаснай Беларусі, каб столькі розных герояў адразу гамузам кінулі ўсе свае праблемы, хатнія й працоўныя, ды пайшлі ў паход на Ерушалаім?

Л.Адамовіч мела добрую задуму — скарыстаць старое паданьне ў якасьці стрыжня аповесьці, на які, як на сьвяточную елку, панізаць лёсы й складаныя характары сваіх герояў, правесьці іх праз выпрабаваньні і вяртаць іх да Бога. Але характары атрымаліся ўсе нейкія прыніжаныя, клопаты аднолькавыя: дзяўчаты мараць пра хлопцаў і касмэтыку, а хлопцы — пра тое, каб добра пад'есьці ды сысьці ў чарговы турыстычны паход, хоць на край сьвету, але каб ня дома, ня побач з абрыдлай жонкай.

Толькі мары іх ня спраўджваюцца.

Г.Туровіч

# ЭПАХАЛЬНЫ ПРЫКОЛ

Надоечы патрапілі мне ў рукі чатыры нумары "Эпохі—часопіса беларускага", што выдаецца ў Варшаве "*на падставе артыкулу XIX Усеагульнае дэкларацыі правоў чалавека*" і "*распаўсюджваецца сярод сяброў у патрабавальных колькасьцях*". Адметнасьць часопіса, апроч таго, што выдаецца на нейкай няяснай мове з прыкметамі беларускай, яшчэ і ў тым, што робіцца ён двума асобамі, што выразна адбіваецца на ягоным зьмесьце. Так, Алена Стралкова (галоўны рэдактар) ды Сяргей Аўсяньнік (ейны намесьнік) — і журналісты, і фатографы, і аналітыкі, і акупуюць добрую палову часопіснай прасторы. Так бы мовіць, two men (sorry, people) show... Зьдзіўляюць прэтэнзіі гэткага выданьня, якое нідзе ў Беларусі не прадаецца, на права зьяўляцца "*адзіным беларускім грамадзка-палітычным часопісам*".




"Эпоха" (зноў цытую) "*прысьвечаная дакладна сярэдняму класу Беларусі*". Галоўны зьмест беларускіх матар'ялаў выданьня — абарона беларускага народу, які мэтадычна зьневажаецца і ўладамі, і мізантрапічнай апазыцыяй. "Эпоха" ж ідзе ў контратаку і дае жару літаральна ўсім: і Хартыі-97, і зацятаму "*антысэміту*" "*Шчукину*", які "*ня мае ані якога дачыненьня да правоў чалавека*", і "*барацьбітцы за трэзвасьць*" Тацяне Процьцы, і газэце "Наша Ніва", якую абвінавачваюць (толькі не ўпадзіце) у... фашызме. Хваляць Аўсяньнік энд Стралкова толькі сябе, сваю кнігу, якую пэрыядычна або цытуюць, або перадрукоўваюць, і таго, у каго бяруць інтэрвію (што часьцяком зноў жа ператвараюцца ў собскія маналёгі Аўсяньніка энд Стралковай) — звычайна гэта кіраўнік БСДГ С.Шушкевіч, чые фотаздымкі ўпрыгожваюць кожны нумар, ды й яго аўтары зь незразумелай фамільярнасьцю клічуць "*Станіславам Станіславаічам*". Хіб?..

Але ў гэтым часопісе хіб на хібе едзе і хібам паганяе. Чалавек недасьведчаны спачатку прымае "Эпоху" за эпахальны прыкол якога-небудзь анархісцкага гуртка, сябры якога вырашылі назьдзекавацца і зь беларускай мовы, і зь беларускіх палітыкаў, і зь беларускага грамадзтва ў цэлым, давёўшы пры гэтым аднастайнае і аднанотное выцьцё на месяц-Лукашэнку да абсурду.

І проста беспараўнана "эпаха-ха-хальнае" спадарства выявіла сябе ў амплюа перакладчыкаў. Зразумела, што арыгінальныя тэксты ім не "падняць", дык яны ўзяліся за пералажэньне польскіх перакладаў (передрукоўкі з "Газэты Выборчай" і іншых польскіх газэтаў займаюць большую палову часопіса). І пайшло тут: Кім Чэн Ір у іх завецца *Кім Джонг Ілам*, карэйская сакрэтная служба называецца "*таямнічай паліцыяй*"; згадваецца сын "*намяцкіх габрэяў*" "*Кохн-Бэндыт, сябра Ёшкі Фішара і бывалы мэр Франкфурту-над-Майнай*"; "*пісьменьнік Джан Пауль Сартр*"; ляўрэаты "*ўзнагароды Нобля*"; кітайскі лідэр "*Джанг Дзямін*" выглядае напаўславянінам; аб вугорца Лашла Чуша можна зламаць язык — у часопісе ён заяўлены *Цсусцам*; чарнагорскі прэзыдэнт Джуканавіч у іх аказваецца *Дзюканавічам*. Але самым забойным стаўся пераклад працы Жан-Мары Мюлье, дзе побач з француcкім "*прэзідэнтам Джорджам Пампіду*" францускі генэрал Jacques Paris de Bollardier трансьлітаруецца як... "*Яаккуес Паріс дэ Болларбьер*". На падобным фоне зусім блякла выглядае гумарыстычны пасаж пра "*барацьбу, якую правадзіла Ірыш Лэнд Леакуе*". Апошняя вычварэнка — гэта ўсяго-ткі Irish Land League, Ірляндзкая Краёвая Ліга.

"*Нічаго*" дзіўнага: нават адзін зь нешматлікіх сяброў часопіса бумбамлітавец Лесь Тур незнарок напісаў, што "Эпоха" — гэта "*канецэптуальнасьць думкі*". Мае рацыю. Толькі вось шкада, што гэткіх махлярскіх "эпох" апошнім часам распладзілася да халеры...

**Анатоль Прасаловіч**

## Паштовая скрынка

**Сяргею М.** зь Пецярбургу. *Бязногія дэсантнікі, вэтэраны чачэнскай вайны, што трымаюць шапку ў пераходах, — тое, на жаль, нямногае, што адрозьнівае нашае гарадзкое асяродзьдзе ад расейскага.*

**Алесю А.** з Полацку. *Ня можам тут з Вамі пагадзіцца. Натуральна, што выданьні, якія выходзяць вялікімі накладамі і рэгулярна, цешацца большай вядомасьцю й папулярнасьцю, а таксама выклікаюць большы розгалас у прэсе, чым выданьні-акцыі, што публікуюцца накладам у пару соцень асобнікаў і прадаюцца толькі на прэзэнтацыях. Дый функцыя апошніх іншая, хоць і ня менш пачэсная і цяжкая. Поўная роўнасьць бывае толькі на могілках, а заўсёды хваляць толькі мёртвых. Пра эліту: эліта не бывае самаабвешчанай. Ад самазванства яе засьцерагае мэханізм грамадзкага прызнаньня і легітымацыі. Пра часопіс "Nihil": мы пра яго не пісалі, бо ён пакуль ня здаўся цікавы ніводнаму з нашых крытыкаў. Пра "Фрагмэнты—Культуру": пра іх мала пісалі, бо яны нідзе не прадаваліся і іх ніхто ня бачыў. Ня ўсё тое, што пачынаецца з апісаньня прыроды — проза. Ня ўсе тыя, хто ўжывае слова "сымулякры" — інтэлектуалы. Пра дасягненьні 10 апошніх гадоў: маем незалежныя партыі, прафсаюзы, спартыўна-вайсковыя клюбы, газэты, часопісы, выдавецтвы, новыя асяродкі за мяжой, інфармацыйныя і рэсурсныя цэнтры ў краіне і за мяжой. Чаго ж яшчэ хочацца Вам?*

**Б.Г.** *Мяняць правапісную традыцыю і цяжка, і рэдка калі бывае апраўдана — старыны ня рушыць! Традыцыйная сыстэма добрая ўжо тым, што яе ўсе ведаюць. Пра напісаньне іншамоўных уласных імёнаў: на беларускай лацінцы гэта рабіць прасьцей. Знаходзіць жа дакладныя кірылічныя адпаведнікі складана: скажам, назва францускага гораду Сэнт-Эт'ен лепш пісаць праз апостраф, чым "Сэнт-Этьен" праз мяккі знак, як Вы прапануеце, яшчэ й дзеля таго, што першае напісаньне лепш перадае францускае вымаўленьне (у францускай мове няма мяккіх зычных). Мовазнаўцы цяпер, дарэчы, якраз сканчаюць распрацоўку абноўленых нормаў клясычнага правапісу. Так што з Вашымі прапановамі зьвярніцеся, калі ласка, да групы сп.Вячоркі. Ведаеце, мы тут у Беларусі надаем зашмат увагі пытаньням правапісу — гэтым мы нібы расьпісваемся ў недафармаванасьці беларускай нацыі. Трэба гэта пераадольваць.*

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

Наша Ніва 90 гадоў таму

## АБ УСЁМ ПА ТРОХУ

*3 сьнежня 1909 году*

**У Швэцыі** ёсьць горад Тадахом, дзе апрача сернікаў, нічога больш не вырабляюць. У адзін дзень іх робяць 200 тысячаў штук; а ў год — 73 мільярды: 300 электрычных машын рэжуць і клеюць скрынкі для сернікаў.

**Да капелюшоў** усіх кабет Эўропы ўжываюць пёраў ад 300 мільёнаў пташак у год.

**У Індзіі** гіне ад гадзін больш як 22 тысячы народу ў год.

**У афрыканскай** зямлі Конга, калі кабета заўдавее, каля сваёй хаты вывешывае на доўгай жэрдцы флаг, і пакуль яго вецер хоць крыху не падарве — яна ня мае права другі раз ісьці замуж.

**У Аўстрыі**, каб абараніцца ад сусьлікаў (шкоднікі, што зьніштажаюць засевы; крыху падобныя да мышэй) выдалі болей як 30 мільёнаў грошай.

**Павук можа** выжыць безь яды круглы год.

**У Кітайшчыне**, дзе як кабеты, так і мужчыны носяць доўгія валасы, цяпер пачалі прадаваць іх; так у 1908 гаду прадалі 7 тысячаў пудоў.



*Конга, 1910 год. З альбому караля бэльгійцаў Леапольда*

## прыватныя абвесткі

**ВІТАНЬНІ**

**Алежка, каханы!** Посьпеху ў гэтай сэсіі, ды і наогул ва ўсім. Вельмі кахаю, чакаю. Заўсёды твая Аленка

**Ігароча, любы мой!** Віншую з нараджэньнем сына. Усяго табе найлепшага! Твая Буся

Прывітаньне менскаму нацыяналісту **Турцэвічу Цімоху** ды ўсім змагарам. Паўлюк

**Мая любая дзяўчына Аксана!** Віншую цябе з надыходам сьвята. Юрась

**Віншую Алеся** з Днём народзінаў! Жадаю!!! Antoś з Наваполацку

**Віншуем усіх Змагароў Бацькаўшчыны!** З надыходам сьвятаў Божага Нараджэньня!

**Памятаеш**, сьціснуўшы руку, сказала, што ў цябе гэткае сэрцайка? Няхай яно будзе адно на дваіх? Дзіма Чакала

**Прывітаньне Рэкешу А**. зь Пінску! **Кахнюк В.**, ведай — Жыве Беларусь!

**Бусенка**, ведаеш, як я назваў лістапад? Хрысьцень. Табе даспадобы? Мяне нарадзіла Тваё каханьне, Кветка Божая...

**ІДЭІ**

**Таварыства Вольных Літаратараў** разглядае вылучэньні на прэмію "Гліняны Вялес" за лепшую беларускую мастацкую кнігу году. Прапановы: Алесь Аркуш, а/с 14, Полацак, 211413, вул.М.Багдановіча 9-17

**Запрашаем паслухаць** аб збаўцы нашым адзіным Хрысьце Ісусе. Штонядзелю а 17-й. Т.: 270-89-87

**Падтрымка ТБМ** — справа гонару кожнага сьвядомага грамадзяніна Беларусі. Наш разьліковы рахунак — № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнэсбанку, код 764. Прыватныя асобы могуць пераказаць грошы праз любое аддзяленьне "Беларусбанку" з прыпіскай: "Ахвяраваньні на дзейнасьць ТБМ". Сакратарыят ТБМ

**Справы ды дзеяньні**, а ня словы — вось што дапаможа Бацькаўшчыне. НДВЗ "Касінеры". 223710, Салігорск, вул. Маладзёжная 7-75

**Новы беларускі прэзыдэнт**, які будзе абраны летам 2000 году, — гэта Вінцук Вячорка. Алесь Дуброўскі

Апошні нумар **газэты "Радавая Беларусь"** — усяго за 30.000 — гэта сьвежыя навіны з БНР. Ад Вас — капэрта з маркай і купон б/а. А/с 169, 220030, Менск

**Prybiarycie Inu Studzinskuju** z radyjo "Racyja". Jana nia viedaje, što Łuka ŭžo nie prezydent. Słuchač

**Магілёўскія патрыёты!** Малады Фронт чакае Вас. Улівайся!

**Najpierš my ličviny**, paśla biełarusy. Vitaŭt

**Беларус!** Будуй Вялікую Сьвятую Беларусь! Жыві сёньня! Літва — гэта гісторыя. Жыве Беларусь! Алесь Загорскі

**Прадаем Vilnius** — сэкцыямі. Самавываз — эшалёнамі. Манаполька ліцьвінская зь Ліды

**КАНТАКТЫ**

**Алесю Загорскаму**: малайчына, Саша. Дзякуй. Ніна Яфрэмаўна

**Той, хто слухае "Deviation"**, "Кардон", "Кальян", "Žygimont Vaza", "Зьніч", "V.C.", "Gods Tower", мусіце адгукнуцца. Бакавец. Менск-28, а/с 164

**Беларускі хлопец** пазнаёміцца зь дзяўчынай да 25 г. Ваш фотаздымак. 220101, Менск, а/с 285

**Panu ź Miensku**. Tłumačym: mienskija i homielskija ličviny — heta nia lidzkija

**Шукаю кантактаў з славянскімі язычнікамі**. Хвала старажытным славянскім Багам! 225710, Пінск-1, а/с 31

**Ličviny**, hej da kučy! Manapolka ličvinskaja ź Lidy

**ЖЫТЛО**

**Дзяўчына здыме пакой** (тэлефон, недалёка ад мэтро). Т.: 260-68-29 (Воля, пасьля 21.00)

**КНІГІ**

Куплю **Энцыкляпэдыю гісторыі Беларусі** (т. 3 і 4), **Беларускую Энцыкляпэдыю** (т. 1—6). Т.: 283-27-34, Фёдар

**Куплю беларускую Біблію**, слоўнік Станкевіча. Т.: 226-42-63

**Набуду кнігі сэрыі "Беларускі кнігазбор":** Ян Чачот, М.Багдановіч, Беларускія летапісы і хронікі. Т.:250-40-62, Аляксей

**Лепшы калядны падарунак любаму сябру** — незалежны часопіс "Калосьсе" №7. Замова: Аляксандар Козік, а/с 14, Полацак 211413 (300 т.р.)

**МУЗЫКА, ВІДЭА**

**Відэа па-беларуску!** "Пяты элемэнт", "Вольныя танцы" — у продажы. "Адважнае сэрца" — па падпісцы. Т.: 284-85-11, 240-78-01

**GEGA RUCH** прапануе крыўскую экстрэмальную музыку. Дадатковая інфармацыя — 220050, Менск, а/с 342

**ПРАЦА**

**Запрашаем** на сталую працу **ўрача-стаматоляга** (тэрапэўта). Працуем у мікрараёне Серабранка г.Менску. Т.: 214-87-39

**Прапануем в/а працу** ў хаце (200 у.а.). Гэта Вы можаце! Ад Вас — капэрта са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Прапануем в/а працу** з інфармацыяй у хаце (150 у.а.). Даступна ўсім. Капэрта са зв/а. 213828, Магілёўская вобл., Бабруйск, а/с 22

**Высокааплатная праца** ў хаце для ўсіх, незалежна ад месца жыхарства. Без навучаньня і папярэдняй аплаты. Капэрта, купон б/а. 210021, Віцебск-21, а/с 21

**Дапамагу пачаць свой бізнэс** (не распаўсюдж.). Высокі заробак. Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**ШУКАЮ ПРАЦУ**

**Швачка са стажам** шукае працу ў хаце. Ёсьць авэрлёк. Т.: (8-216) 4-63-06, Люда

**Андрэй** (15) **шукае падзаробак** ад 10$. Т.: 285-82-18

Генэтычна перарабляем позьніх у вечаровых, яйкагаловых — у круглагаловых, лысых — у валасатых і наадварот. Кошты зьніжаныя на 40%. Іміджмэйкер манапольскі ліцьвінскае зь Ліды

**Запрашаем узяць удзел у шэрагу навукова-папулярных чытаньняў па гісторыі беларускіх старажытных вераваньняў.**

Першая сустрэча адбудзецца 15 сьнежня 1999 году а 17-й па адрасе: вул. Рэвалюцыйная 15, 2-і паверх (памяшканьне Нацыянальнага Навукова-Асьветнага Цэнтру імя Скарыны). **Тэма: Сьвяцілішча Перуна, Пяркунаса, Дудуціса ў часе Нямiскай бітвы.** Праводзіць чытаньне **Пётра Русаў.**

*Па даведкі зьвяртацца на тэл.: 220-93-50, 220-51-57*

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў* – ***50 000*** *руб.,*
- *звыш 20 словаў* – ***70 000*** *руб.;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява* – ***20 000*** *руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету – ад* ***40 000*** *руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі* – ***зьніжка.***

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. **Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3103. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 22:39, 12.12.1999 . Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 6377. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Бабруйская, 19/36
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12